

НАР·КАМ·ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР.

# ПЛУГ






1926
МЕНСК

ТРАВЕНЬ

№ 5

# Зьмест.



---


1-я Дзярж. друкарня. Заказ № 2760—9.600 экз. Галоўлітбел № 17.842.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

II год выданьня Травень 1926 г. № 5



## Трэба зарані змагацца з бяскорміцай.

**Бяскорміца спыняе разьвіцьцё жывёлагадоўлі. Пры нястачы прыродных сенажацяй трэба здабываць корм на полі. Шматпольная палявая гаспадарка з пасевам кармовых траў, караньплодаў, занятым папарам і пажніўнымі расьлінамі вырашае кармовое пытаньне.**

Сярод шкодных адзнак старой трохпалёўкі, якая зараз ужо дажывае свой век, была і бяскорміца, інакш кажучы недахоп корму для жывёлы.

Нястача корму, як сена, караньплодаў, мукі і макухі, а часамі і саломы, не дазваляла селяніну паляпшаць і пашыраць жывёлагадоўлю. Замораныя каровы сялян заўсёды былі стратнымі і трымаліся толькі дзеля гною, хаця і гною давалі мала. Урэшце і палявая гаспадарка ня мела патрэбнага ўгнаеньня, чаму спустошвалася поле і ўраждаі даходзілі да 30—35 пуд. на дзес.

Адзіным ратункам для селяніна-трохпольніка былі прыродныя сенажаці і выганы. Але іх нізкая ўраджайнасьць[1]) не магла забясьпечыць гаспадарку кормам, хоць сенажацяй у Беларусі лічыцца прыблізна ½ дзес. на 1 дзес. пахаці. Гаспадарка прымушана была шукаць выхаду ці марыць скаціну на адной саломе.

Зараз-жа, калі сельская гаспадарка Беларусі канчаткова зьмяняе зярновую (трохпалёвую) сыстэму гаспадараваньня на пладазьменную, гэта значыць і замацоўвае шматпольле з пасевам кармовых траў, караньплодаў, значна большай плошчай бульбы, то кармовае пытаньне сялянскай гаспадаркі стаіць, як быццам, ня так гостра, але патрабуе яшчэ значнай увагі.

Праўда, мясцамі мы і зараз назіраем ужо амаль поўны пераход на шматпольле і значны посьпех у кармовым пытаньні. Так, напрыклад, льнаводныя раёны Віцебшчыны і Магілеўшчыны маюць даволі высокі процант (каля 5-6) сеяных траў, а іншыя раёны, як поўдзень Магілеўшчыны, Меншчына, Случчына і Мазыршчына, значна пашырылі плошчу бульбы (11-12 проц.) і зьменшылі плошчу незанятага папару[2]).

Але ўсё гэта яшчэ не гаворыць, што кармовае пытаньне вырашана, што сялянская жывёла забясьпечана кормам. Далёка ня так. Амаль кожны год вясною сялянская скаціна шмат якіх раёнаў адчувае голад і ў лепшым выпадку недаеданьне. Бяскорміца зьяўляецца, як-бы спадчынай нам ад царскае Расіі.

---

[1]) Сярэдні збор сена па Беларусі ў 1914 г. быў 95-120 пудоў з заліўных сенажацяй.

[2]) У Слуцкай акрузе незанятага папару лічыцца 18 проц., у Менскай 19 проц.

Вось чаму зараз селяніну і агроному трэба паставіць як чарговы лёзунг „барацьба з бяскорміцай“, барацьба за правільную організацыю і здабычу корму ў гаспадарцы.

Цэлы шэраг мерапрыемстваў Савецкай улады ў галіне зямельнай і с.-г. політыкі ў поўнай меры спрыяе і вырашэньню кармовага пытаньня. Толькі гэта пытаньне трэба паставіць, як чарговае. Земляўпарадкаваньне і данадзяленьне дае поўную мажлівасьць завесьці шматпольле з пасевам канюшыны ці іншых кармовых расьлін, караньплодаў і г. д. Таксама дзяржавай праводзіцца асушка балот, каб выкарыстаць іх, як сенажаці і выганы; даецца крэдыт на куплю насеньня траў, мінэральных угнаеньняў і г. д. Зараз трэба толькі ўмела організацыйна і тэхнічна выкарыстаць усе мажлівасьці. Здабычу корму трэба паставіць на першы плян, мець яе на ўвазе і думаць зараз аб корме для наступнага году.

А кожная сялянская гаспадарка пры жаданьні можа вельмі шмат чаго зрабіць у гэтым кірунку, напрыклад:

1) *палепшыць сваю прыродную сенажаць;* пабаранаваць яе, выдраць мох, мо' часткаю асушыць, угноіць попелам, падсеяць траў і г. д.;

2) *выкарыстаць пусташы і балоты пасьля асушкі і грунтоўнага палепшаньня;*

3) *пачаць пасеў канюшыны пры абавязковай гадоўлі свайго насеньня*;

4) *завесьці пасеў караньплодаў*, *пашырыць плошчу бульбы;*

5) *скараціць ці зусім выкінуць незаняты папар*. Замест яго сеяць мешаніну вікі з аўсом, пялюшку, бульбу і лубін на ўгнаеньне;

6) *пачаць падсеў сэрадэлі пад жыта ці ярыну,* каб у тым-жа годзе здымаць яшчэ *і другі ўраджай сена*. Пры дрэнным росьце сэрадэлі пасьля прыборкі жыта пачаць сеяць у аржоньні турнэпс (кармовую рэпу);

7) *пры малазямельлі лубін з папару перанесьці у аржоньне*, як пажніўную расьліну, і яго зялёную масу выкарыстоўваць, як угнаеньне пад бульбу ці ярыну ў наступным годзе;

8) *скараціць трохгадовае скарыстаньне траў на двух і аднагадовае.*

Адным словам, у шмат якіх выпадках гаспадар можа знайці мажлівасьць, каб зарані прызапасіць скаціне корму і вясною ня знацца з бяскорміцай.

Багаты запас корму ў гаспадарцы дасьць мажлівасьць паднімаць ураджаі, а таксама пашыраць і паляпшаць жывёлагадоўлю. На вялікі жаль, кармовае пытаньне ў нас яшчэ мала вывучана дасьледчымі станцыямі. Амаль ніводная станцыя шырока гэта пытаньне ня ставіла. Але шмат што і цяпер ужо можна лічыць ясным і бясспрэчным. Сялянская практыка мае добрыя прыклады. Кожнаму зразумела, *што корм—грунт гаспадаркі і здабычу корму трэба паставіць, як чарговы лёзунг у практычнай працы, як агронома, так і селяніна.*

**Сьц. Тупяневіч.**

---

**Большая частка гэтага нумара прызначана кармоваму пытаньню.** *(Рэд.)*

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Выка-аўсяная мешаніна.

*(Па матар'ялах Забалацкай балотнай дасьледчай станцыі).*

Выка-аўсяная мешаніна сеецца на балотнай гаспадарцы з 1922 г. Сеялася мешаніна пераважна на сена і ўраджай яе на дзесяціну па ўгнаеньню быў:

| 1922 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|
| 240 п. | 297 п. | 270 п. | 293 п. |

У сярэднім за 4 гады на дзес. было 275 пуд. сухога сена, а сырой масы да 1500 пуд.

Тая-ж выка-аўсяная мешаніна пры пасеве без угнаеньня дала:

| 1922 г. | 1923 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| 130 п. | 112 п. | 160 п. |

У сярэднім за 3 гады 134 пуд. сухога сена, а сырой масы да 700 пуд. на дзес.

Адсюль відаць, які ўплыў робіць на ўраджай выка-аўсянае мешаніны ўгнаеньне (12 пуд. калійнае солі і 18 пуд. тамасшлаку.)

Падвойнае ўгнаеньне павышае ўраджай да 310-320 пуд., але горш аплачвае дадатковае ўгнаеньне.

Каб судзіць з экономічнага боку, ці карысна выка-аўсяная мешаніна, прывядзём такі разрахунак:

| ДАХОД (на дзес.). | РАСХОД (на дзес.). | |
|---|---|---|
| Сярэдні ўраджай 275 пуд. па 50 к.—137 р. 50 к. | Выраб. поля і пасеў . . | 13 р. |
| | Угнаеньні і насеньне . . | 48 „ |
| | Прыборка . . . . . . | 14 „ |
| | Гасп. расходы 0/00/0 на затраты і рамонт . . | 19 „ |
| | Усяго . . | 94 р. |

Чысты прыбытак на дзесяціну 43 р. 50 к.

Зрабіўшы такі-ж разрахунак для няўгноенае выкі, мы атрымаем чыстага даходу 6 руб. Адсюль відаць, што ўнясеньне ўгнаеньняў ня толькі сябе аплачвае ў першы год, але дае яшчэ і чысты даход. Угнаеньне прыметна і на другі год пасьля ўнясеньня. Напрыклад, ураджай выка-аўсянай мешаніны на працягу 3-х год быў:

| 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| 207 п. | 270 п. | 235 п. |

Сярэдняе за 3 гады—234 пуды сухога сена.

Такім чынам, у два гады па ўгнаеньню можна сабраць 510 пуд. сена, а чысты прыбытак узрастае да 60 руб.

Ва ўсіх гэтых выпадках норма ўгнаеньняў і насеньня адна, (на дзес.—5 пуд. выкі і 5 пуд. аўса). Гэта колькасьць зьяўляецца найбольш падыходзячай.

Што датыча прыборкі, то трэба прыняць за правіла няўдачу сушкі ў пракосах. Вільготнасьць паверхні балота і дажджы зацягваюць сушку. А сена, якое доўга застаецца ў пракосах, траціць вартасьць.

Балотная гаспадарка сушыць такое сена на драбінах, якія зьбіваюцца з тоўстых жэрдак. Гэтыя драбіны ставяцца па дзьве. На драбіны кладзецца прасушаная ў пракосах маса. На дзес. даволі 8-10 пар драбін, якія трэба ставіць з паўдня на поўнач. Пры правільнай укладцы падсохшай масы на драбіны, далейшая прасушка ідзе даволі хутка.

Калі не стае патрэбнага для драбін ляснога матар'ялу, то пасевы трэба расьцягваць на некалькі тэрмінаў, што дазволіць скарыстаць адны і тыя-ж драбіны для розных тэрмінаў прыборкі. Розныя тэрміны пасеву мешаніны на ўраджай уплыву ня маюць.

Так, пасеў у пачатку травеня даў на дзес. 292 пуды
„ „ канцы травеня „ „ „ 306 „

Таксама выка-аўсяную мешаніну можна сеяць і ў чэрвені. Амаль ва ўсіх выпадках пасеу выкі-аўса зьяўляецца першым па тарфяному пасеву, што мае асабліваe значэньне пры культуры балот.

Балота араць пад выку можна вясной і з восені, бо ад гэтага ня будзе залежыць ураджай сена. Вучот пробнай плошчы ў 1 кв. саж. даў сырой масы

пры асеньняй узорцы . . . 22,2 фун.
„ вясеньняй „ . . . 22,5 „

Як бачым, выка-аўсяная мешаніна мірыцца з рознымі ўмовамі росту.

Такім чынам, пасеў выка-аўсянае мешаніны мае вялікае значэньне ў першыя гады культуры балот. З усяго напісанага можна сказаць, што

1) пасеў выка-аўсянае мешаніны на балоце забясьпечвае гаспадаркі кормам;

2) ад унясеньня каліфосфарных угнаеньняў ураджай выка-аўсянай мешаніны павялічваецца ў 2-2½ разы;

3) ураджай выка-аўсянага сена ў першы-ж год аплачвае ўсе затраты і апрача таго дае яшчэ чысты прыбытак, які значна ўзрастае дзякуючы ўплыву ўгнаеньня;

4) якасьць выкавага сена залежыць ад своечаснай прыборкі (у час красаваньня) і спосабу сушкі.

**А. Шохар.**

# Пашырайце засеў караньплодаў.

*(З працы дасьледчых станцый).*

**Караньплоды ратуюць ад бяскорміцы. Караньплоды замяняюць зярно і макуху ў кармленьні кароў або авечак.**

З кожным годам усё менш і менш атрымоўвае селянін корму для сваёй жывёлы: сухадолы амаль усе распаханы, а заліўных сенажацяй мала, ды яны апошнімі гадамі і родзяць менш. Жывёла зімою часта стаіць амаль на саломцы, а ад галадоўкі яна і малака збаўляе ня толькі зімою, але таксама і ўлетку.

У гэты час, калі селянін наш імкнецца перайці на шматпольле, ён мае на мэце пасеў канюшыны. Але разам з канюшынай ня трэба забываць і караньплоды—яны лепшая зброя ў барацьбе з бяскорміцай і бездаходнасьцю сялянскай гаспадаркі.

Сяляне Даніі ў сваім палепшаньні жывёлы далі практычныя прыклады, якімі цяпер карыстаецца амаль увесь сьвет: караньплоды замяняюць у іх зярно і макуху ў кармленьні малочных кароў, а таксама і сьвіней. Калі карміць кароў караньплодамі, то яны паступова павялічваюць удоі малака; караньплоды таксама спрыяюць лепшаму і правільнаму разьвіцьцю жывёлы.

Пры адкорме сьвіней 1 фун. сухой матэрыі ў караньплодах мае такую-ж вартасьць, што і 1 фун. зярна. Даю прыклад па кармленьню сьвіней.

| Група сьвіней. | Здыманага малака. | Ячменю. | Буракоў. | Прырост за 10 дзён. |
|---|---|---|---|---|
| Група А | 125 фун. | 19 фун.*) | — | 8,2 |
| „ Б | 125 „ | $9^1/_2$ „ | 76 ф. | 8,7 |

Такім чынам, буракі па спажыўнасьці лепш за ячмень: яны далі прырост на 0,5 фун. болей, чым ячмень. Шэрагам такіх досьледаў даведзена, што 8 фун. кармовых буракоў ці 6 фун. цукровых пры адкорму сьвіней замяняюць 1 фун. зярна.

Сярод сялян можна спаткаць думку, што ад кармленьня кароў буракамі яны даюць рэдкае, вадзяністае малако. Але гэта ня так. Досьледы зноў кажуць, што і тут малако мае аднолькавую колькасьць жыру, як і пры кармленьні бяз караньплодаў.

Досьледы нашых станцый падкрэсьлілі вынікі Даніі, што караньплоды маюць такі-ж уплыў на жывёлу, які і маладая трава.

Такім чынам, караньплоды павінны заняць сталае месца ў перабудове сялянскае гаспадаркі па новаму. Спачатку караньплоды зьявяцца на прысялібных вучастках, а далей і ў полі, пры шматпольным севазвароце.

Дасьледчае поле Т. с.-г. А. лепшым месцам у севазвароце для караньплодаў лічыць канюшынішча. Але з посьпехам можна сеяць караньплоды і пасьля жыта.

Кармовыя караньплоды разводзяцца насеньнем, а таксама і расадай. Патрэбна падкрэсьліць карысьць перасадкі расады. Гэта паказваюць вынікі Маскоўскай с.-г. дасьледчай станцыі.

*) $9^1/_2$ фун. ячменю па спажыўнасьці раўняюцца 76 фун. буракоў.

| | Спосабы пасеву буракоў. | | |
|---|---|---|---|
| | Па грэбню. | Гладкае поле. | З перасадкай. |
| Ураджай кармовых буракоў . . | 1014 п. | 809 п. | 1143 п. |

Для перасадкі лепш выбіраць сарты круглыя ці плоскія; ад перасадкі даўгіх буракоў корні іх вырастаюць гальлістыя.

Што належыць да сартоў караньплодаў ва ўмовах Беларусі, то тут сталых указаньняў даць ня можна, але прыводжу вынікі сортавывучэньня кармовых караньплодаў на Беларускай агрономічнай дасьледчай станцыі за 1925 г.

| Від караньплодаў. | Сарты. | Ураджаі з дзес. |
|---|---|---|
| 1 Кармовы бурак | Арнім-крывенскі . . . | 3617 пуд. |
| 2 " " | Экендорфскі жоўты . . | 3784 " |
| 3 " " | " чырвоны . | 3782 " |
| 4 " " | Маммут даўгі чырвоны. . | 2935 " |
| 5 " " | Ідэал Кірша . . . . | 3288 " |
| 6 Бурак паўцукровы | Белы . . . . . | 3432 " |
| 7 " " | Ружовы . . . . . | 2795 " |
| 8 Бручка кармовая | Швэцкая жоўтая . . . | 3312 " |
| 9 " | Гофманская . . . . . | 2736 " |
| 10 Турнэпс | Остэрзундомскі . . . | 4608 " |
| 11 " | Танкард жоўты . . . | 3888 " |
| 12 " | Жоўты шар . . . . | 2592 " |

Ураджай корань плодаў (з дзес.).




Экендорфскіх буракоў. Турнэпса. Бручкі.

Такім чынам, па сваёй ураджайнасьці прыметны сарты буракоў Экендорфскі (3784 і 3782 пуд. з дзес.) і Арнім-крывенскі (3617 п.) і паўцукровы белы (3432 п.). Экендорфскі бурак прывезены да нас з Нямеччыны і мае сталую ўраджайнасьць і трываласьць супроць шкоднікаў. Бурак Арнім-крывенскі таксама мае значную цэннасьць. Арнім-крывенскі бурак расьце амаль што на вярху зямлі; форму мае цыліндрычную, лёгка выцягваецца з зямлі. З турнэпсаў лепшым па ўраджайнасьці лічыцца Остэрзундомскі—трывалы ад шкоднікаў.

Пачынаць культуру караньплодаў патрэбна з буракоў, бо яны ўдаюцца і на горшых глебах; насеньне іх можна дастаць усюды і догляд за імі прасьцей. Апрача таго, буракі лёгка перахоўваць зімой.

На бураках селянін павінен вучыцца разводзіць караньплоды.

**А. Казлоўскі.**

(Беларуская агростанцыя).

---

# Як і дзе сеяць караньплоды.

Караньплоды, як буракі, турнэпс, бруква, морква даюць высокія ўраджаі і забясьпечваюць гаспадарку кармамі. А за корм скаціна адплачвае гаспадару ня толькі гноем, але і малаком, сырам, мясам і інш. продуктамі. Калі-ж караньплоды маюць такое важнае значэньне ў нашых гаспадарках, то застановімся на такіх чатырох пытаньнях: а) *месца караньплодаў у севазвароце*, б) *выраб поля*, в) *угнаеньне пад караньплоды* і г) *пасеў і догляд за караньплодамі ў часе росту*.

Лепшым месцам у севазвароце лічыцца яравы клін пасьля добра ўгноенае азіміны (жыта або пшаніцы). Часта сустракаюцца такія 4-х польныя севазвароты з караньплодамі: 1) *папар угноены*, 2) *азіміна*, 3) *караньплоды* і 4) *ярына*. На прысялібных вучастках можна сеяць караньплоды пасьля ўгноенае пшаніцы, бульбы і матыльковых, хоць пасьля канюшыны караньплоды незаўсёды ўдаюцца, бо зямля па свайму багацьцю, хоць і можа забясьпечыць ураджай караньплодаў, але цяжка бывае атрымаць мяккую глебу і пазбавіцца ад дзярніны. Ва ўмовах Беларусі вельмі добрым месцам пад турнэпс і бручку могуць быць асушаныя тарфянікі, якія багаты спажыўнымі матэрыямі і могуць даваць высокія ўраджаі.

Для тарфянікаў можна раіць такі севазварот з караньплодамі: 1) *капуста* або каноплі па гною, 2) *караньплоды*, 3) *матыльковыя* і 4) *авёс*.

Выраблять поле пад караньплоды трэба абавязкова з восені; пры гэтым пахатны слой узорваецца на поўную глыбіню. Вясной, як зямля падсохне, поле барануюць і пераворваюць, а за тыдзень перад пасевам яшчэ раз пераворваюць. Пасьля гэтага поле зноў барануецца і можа лічыцца гатовым да пасеву.

Караньплоды для свайго росту і высокага ўраджаю патрабуюць пажыўныя матэрыі, якія павінны быць у глебе, затым угнаеньне пад іх мае асабліва важнае значэньне. Найлепшым угнаеньнем для караньплодаў лічыцца гной, які мае ўсе матэрыі, патрэбныя для разьвіцьця караньплодаў. Акрамя таго, гной на нашых прыпадлівых глебах робіць зямлю пульхнай, а на пескавых лёгкіх глебах ён спрыяе ўтварэньню глыбкаватасьці.

Калі караньплоды сеюць пасьля ўгноенае азіміны, то трэба класьці ўжо палавіну ўгнаеньня (1200 пуд. гною) або палажыць толькі дадатковыя мінэральныя солі: *калійную соль, супэрфосфат ці тамасшлак*, якія асабліва патрэбны для караньплодаў. Калійнае солі (30 проц.) можна класьці ад 6 да 7 пуд. на дзес., а супэрфосфату ад 10 да 12 п. Калі гной ня клаўся пад папярэднюю расьліну, то гэтыя нормы павінны быць павялічаны: калійнае солі для беднай пескавой глебы ад 10 да 15 пуд., а для глiністай ад 6 да 8 пуд. (яна ў нашых умовах можа быць заменена звычайным попелам, якога можна класьці ад 60 да 80 пуд. на дзес.), супэрфосфату кладзецца на пескавых глебах ад 15 да 20 пуд., а на глiністых ад 15 да 18 пуд. Замест супэрфосфату можна класьці тамасшлак—у першым выпадку ад 12 да 15 пуд., а ў другім ад 8 да 10 пуд. на дзес. Усе гэтыя ўгнаеньні павінны быць унесены ў глебу своечасна, пад апошнюю пераворку, каб яны маглі добра перамяшацца з глебай. Часта-ж высяваюць гэтыя ўгнаеньні ў палавіннай колькасьці і разам з насеньнем, якое высяваецца ў радкі; пры гэтым атрымоўваюцца добрыя вынікі.

Вялікае значэньне для караньплодаў мае азоцістае ўгнаеньне, бо азот спрыяе хуткаму росту караньплодаў. Азот можна класьці з салетраю (ад 3 да 5 пуд. на дзес.). Яго можна рассяваць і пасьля пасеву насеньня.

Тарфяныя і падзолістыя глебы даводзіцца яшчэ ўгнойваць вапнаю, каб зьменшыць кіслотнасьць глебы. Класьці вапну можна адгашаную, каля 150 пуд. на дзес.

*Пасеў*. Па часу першымі можна высяваць бручку і моркву, затым буракі і пасьля іх турнэпс. Сеяць караньплоды трэба абавязкова радкамі. Дзеля таго, што насеньне іх даволі дробнае (акрамя буракоў), то і прыкрываць яго трэба ня больш, як на $^1/_2$ вярш. На паскароджаным полі (град можна не рабіць) праводзіцца матыкай баразна, у якую і высяваецца насеньне з рукі, і прыкрываецца граблямі.

Радок ад радка павінен быць на адлегласьці ад 6 да 10 вярш. для буракоў, турнэпсу і бруквы і ад 4 да 6 вярш. для морквы. На дзесяціну насеньня буракоў трэба 1—1$^1/_2$ пуды, морквы 10—15 фун., бруквы 8—10 фун. і турнэпсу 8—12 фун. Буракі і брукву можна садзіць расадай, пры гэтым менш ідзе насеньня, а ўраджай бывае лепшы. Пасьля ўсходу, калі расьліны будуць мець каля 1 вярш. вышыні, іх трэба прарадзіць і пакінуць у радку паасобныя кучкі расьлін і на 2—3 вярш. адна ад другой. Калі-ж расьліны зусім умацуюцца і пачнуць расьці, трэба зрабіць канчатковае прарываньне і пакінуць расьліну ад расьліны для буракоў, турнэпсу і бруквы на 5—8 вярш., а для морквы на 3—4 вярш.

У далейшым трэба толькі час ад часу ўспульхніваць глебу і выпалваць сарнякі. На больш нізкіх месцах караньплоды высаджваюцца на грэбні, якія робяцца плугам або асыпнікам.

Прывядзем ураджайнасьць некаторых сартоў караньплодаў, якія сеялі на Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі, і зробім ім ацэнку ня толькі, як кармоваму продукту, а паглядзім, наколькі сходна гэта расьліна ў параўнаньні з зернавымі расьлінамі. Дзеля гэтага мы прыводзім табліцу, у якой адзначым ураджайнасьць караньплодаў, колькі яны даюць кармовых адзінак (кармовай адзінкай лічыцца 1 фун. аўса), колькі фунтаў трэба таго ці іншага караньплода для замены аднаго фунта аўса і ў колькі раз больш кармовых адзінах атрымоўваецца з

аднае дзес. караньплодаў у параўнаньні з аўсом. (Ураджай аўса бярэм 100 пуд. зярна без саломы).

| НАЗВА РАСЬЛІН | Ураджай у пудох з дзесяц. | Лік кармовых адзінак | Колькі фун. караньплодаў трэба на замену 1 ф. аўса | У колькі разоў больш атрымоўваецца кармовых адзінак у параўнаньні з аўсом |
|---|---|---|---|---|
| 1. Морква кармов. Іспалінская зялёнагалов. . . . . . . | 2450 пуд. | 14000 | 7 фун. | 3,5 |
| 2. Бурак кармовы Экендорфскі жоўты . . . . . . . . | 3700 „ | 18500 | 8 „ | 4,6 |
| 3. Бруква . . . . . . . | 3575 „ | 15888 | 9 „ | 3,9 |
| 4. Турнэпс бортфэльдзкі . . . | 4200 „ | 14000 | 12 „ | 3,5 |
| 5. Авёс (толькі зярно) . . . | 100 „ | 4000 | 1 „ | 1,0 |

З табліцы відаць, наколькі няроўнацэнны па сваёй кармавой якасьці гэтыя караньплоды паміж сабою; напрыклад, ураджай морквы 2450 пуд. дае столькі-ж кармовых адзінак, колькі і дае ўраджай 4200 п. турнэпсу, і наколькі сходна сеяць караньплоды ў параўнаньні з ураджаем аўса ў 100 пуд. Адсюль вынік, што пры дапамозе караньплодаў можна вырашыць задачу аб двух каласох, якія вырастуць там, дзе перш рос адзін.

Дык больш увагі караньплодам!

**А. Савельлеў.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

---

# Кармовая морква.

З усіх караньплодаў на пескавых і супескавых глебах найбольшай увагі заслугоўвае кармовая морква. Сеяць яе трэба на добра вырабленым незасьмечаным полі і ўгноеным з восені перапрэўшым гноем. Каб яе не заглушалі сарнякі, моркву лепш сеяць на другі год пасьля ўгнаеньня і высеяць попелу 40 пуд. на дзес. Попел раскідаецца ўвосень. Усходы паліваюць растворам чылійскае салетры (1 сталовая лыжка на вядро вады); першы раз паліваюць у час усходаў, а другі праз 2—3 тыдні. Калі няма попелу, то яго можна замяніць калійнай сольлю і супэрфосфатам. Калійная соль высяваецца за тры тыдні да пасеву, а супэрфосфат за тыдзень. На дзесяціну кладуць калійнае солі да 10 пуд., а супэрфосфату 24 п. Моркву можна сеяць пасьля азіміны, бульбы, яравой пшаніцы і інш. Поле пад моркву з восені глыбока аруць, вясною скародзяць і яшчэ раз аруць.

Сеяць трэба радкамі, на 8 вярш. радок ад радка. Дзе ёсьць сяўнік „Планет“, добра гэту работу рабіць ім. Насеньня на дзесяціну трэба да 20 фун. Калі зьявяцца ўсходы, расьліны трэба прарваць на 3 вярш. і выпалаць. Прарываць моркву трэба некалькі разоў за лета. Калі-ж яе не прарываць, то ўраджай будзе слабы. Прыбіраюць моркву ў канцы верасьня. Захоўваюць у паграбох або падвалах, перасыпаўшы сухім пяском. Ураджай морквы бывае да 2000 пуд. з дзес.

Морква зьяўляецца добрым кормам для дойных кароў; яна павышае ўдоі і мае добры ўплыў на якасьць малочных продуктаў. Коням даюць кармовую моркву па 5 фунт. у суткі для палепшаньня страваваньня; для сьвіней і авец яна таксама служыць добрым кормам.

Самым пашыраным сортам у нас зьяўляецца белая зялёнагаловая морква. Насеньне морквы лепш разводзіць у сваёй гаспадарцы, пакінуўшы дзеля гэтага некалькі добрых карэньняў.

Агроном Хаустовіч.

# Досьледы з канюшынай Турскай дасьледчай станцыі.

**Пры нястачы насеньня больш сходна сеяць 30 ф. насеньня канюшыны Насеньне канюшыны лепш гадаваць з атавы другога году. Мінэральныя угнаеньні пад канюшыну акупаюць сябе.**

Вопыты з канюшынай паказалі, што яе можна сеяць на дробнапескавых глебах. Але ўраджайнасьць сена і насеньня канюшыны залежаць ад палявой тэхнікі, вывучэньнем якой адносна канюшыны і займаецца Турская дасьледчая станцыя.

*Пад якія расьліны лепш усяго падсяваць канюшыну?* Канюшына падсявалася намі на розных дзялянках пад яравую пшаніцу, ячмень і авёс. Ураджай сена за 2 гады ў сярэднім з дзес.: *па аўсу 516 пуд. па ячменю 476 пуд.* і *па яравой пшаніцы 485 пуд.* Адсюль вынікае: [1]) авёс, яравая пшаніца і ячмень зьяўляюцца добрымі прыкрываючымі расьлінамі для канюшыны; 2) авёс зьяўляецца лепшай прыкрываючай расьлінай, чым яравая пшаніца ці ячмень.

*Колькі насеньня канюшыны схадней сеяць?* У першым досьледу спрабаваліся толькі дзьве гушчыні пасеву—60 фун. насеньня канюшыны на дзес. і 30 фун. Ураджай сена ў першым выпадку быў 268 п. на дзес. і ў другім 241 пуд., г. зн. прыбаўка на 30 фун. насеньня канюшыны дала ўсяго 27 пуд. сена ў першым годзе, а ў другім 35 пуд. сена.

У мінулым годзе спрабавалі сеяць ужо 40 і 50 фун. насеньня на дзес. і атрымалі такія ўраджаі:

| Пасеў насеньня | Ураджай сена канюшыны на дзесяціну | У %% |
|---|---|---|
| 30 фунтаў | 320 пуд. | 100 |
| 40 „ | 338 „ | 105 |
| 50 „ | 348 „ | 108 |
| 60 „ | 356 „ | 111 |

Вынікі досьледу сьведчаць, што ўраджай канюшыны не павялічваецца так, як павялічваецца норма высеву насеньня, а значна меншы. *Сеяць шмат насеньня канюшыны нясходна, бо прыбаўка ўраджаю* сена канюшыны не *аплачвае дадаткова высеянага насеньня.* Дзеля

таго, што ў сялян мала свайго насеньня канюшыны, а на рынку яно каштуе дорага, можна высяваць 30 фун. насеньня канюшыны на дзес.

Найбольш ураджайнымі сартамі канюшыны ў мінулым годзе былі *мясцовая* (405 пуд. сена), *польская* (301 п.) і *багемская* (260 п.). Багемская канюшына моцна пацярпела ад неспагаднае зімы, польская менш, а мясцовая перазімавала добра.

*Насенны ўкос канюшыны першага году зьніжае ўраджай сена* на другі год на 12 проц. Так, напрыклад, пасьля ўкосу канюшыны першага году на насеньне, ураджай другога году быў 297 пуд. сена, а пасьля скарыстаньня і першага году на сена, ураджай другога году даў 338 пуд. сена, г. зн. ураджай сена пасьля насеннага ўкосу меншы на 41 пуд, чым пры ўкосу на сена, але недабор сена аплачваецца ўраджаем насеньня.

Схадней і лепш атрымоўваць насеньне канюшыны з атавы другога году, бо тады можна скарыстаць поўнасьцю першыя ўкосы сена, акрамя таго насеньне атавы роўнамерна пасьпявае і менш засьмечана, чым канюшына першага ўкосу. Пры пасеве канюшыннае насеньне трэба закрываць зямлёю, бо бяз гэтага канюшына горш расьце і няроўнамерна пасьпявае.

Досьледамі з мінэральнымі ўгнаеньнямі заўважаны уплыў угнаеньня, калі яно паложана пад прыкрываючы канюшыну авёс; павялічваецца ўраджай аўса і ўраджай канюшыны першага і другога году.

На станцыі з угнаеньняў сеялі—мелу 120 пуд. на дзес., калійнай солі 8 пуд. і супэрфосфату 24 пуд. Угнаеньні сеялі па аднаму, па два і ўсе тры разам.

| Угнаеньне. | Кошт угнаеньня | Прыбаўка (+) ці зьмяншэньне ўраджаю (—) | | | Усяго прыбаўка ўраджаю. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Аўса 23 г. | Канюшыны I ук. 24 г. | Канюшыны 2 ук. 25 г. | |
| Мел (Са) 120 п. . . . | 18 руб. | 34,8 п. | 36 п. | —9 п. 20 ф. | Аўса 34 п. 5 ф. канюш. 26 п. 20 ф. |
| Калійная соль 8 п. . . Супэрфосф. 24 п. K+P. | 29 „ | 26 „ | 31 „ | +33 п. 20 ф. | Аўса 26 пуд. канюш. 64 п. |
| Мелу (Са) 120 п. . . Кал. солі 8 п. . . . Супэрфосфат 24 п. . . | 47 „ | 23 п. 20 ф. | 35 п. 20 ф. | + 6 п. 5 ф. | Аўса 23 п. канюш. 41 п. 25 ф. |

Калі ацаніць прыбаўку ўраджаю за 3 гады, г. зн. аўса за 1 год і канюшыны за 2 гады і ўзяць цану ўгнаеньня, тады выявіцца, што больш усяго (у гэтым выпадку) сходна прымяняць калійна-фосфарнае ўгнаеньне (калійнае солі 8 пуд. і супэрфосфату 24 пуда (на дзес.). Менш сходна прымяненьне мелу і ўбытачна прымяняць зьмешанае ўгнаеньне з мелу, калійнае солі і супэрфосфату.

**Б. Бабіцкі.**

# Займайце папар.

**Папар трэба займаць бульбай або кармовымі расьлінамі. Заняты папар дае лішні ўраджай.**

Вельмі часта можна чуць ад сялян, што к вясьне ў гаспадарцы не хапае хлеба і асабліва адчуваецца недахват корму для жывёлы. Селянін з нецярплівасьцю чакае вясны, каб пусьціць жывёлу на пашу. Але па досьледах проф. Даярэнкі позны сялянскі папар дае з дзес. толькі 6 пуд. кармовай травы і 85 пуд. быльля. Падругое, такі папар наогул толькі губіць глебу. Селяніну-ж трэба падумаць, якім чынам забясьпечыць сям'ю хлебам, а жывёлу кормам.

Калі вёска мае выган, лес, ці якое-небудзь балота, якое прыгодна для пашы, селянін павінен адмовіцца ад познага сялянскага папару, бо ўраджаі жыта на такім папары вельмі малыя (30-40 пуд. з дзес.). Сялянскі папар трэба замяніць *заняты́м папарам.* Займаць папар можна *бульбай, турнэпсам, выка-аўсянай мешанінай, бобам, гарохам, канюшынай, грэчкай, лубінам і інш.* Найбольш падыходзіць да нашых беларускіх умоў папар бульбяны і выка-аўсяны. Даход, які дае заняты папар, а далей і ўраджай жыта, гаворыць за тое, што экономічна гэтыя папары выгадны.

*Бульбяны папар.* Для ўвядзеньня такога папару галоўным зьяўляецца падбор раньніх і трывалых сартоў бульбы. Калі такія сарты бульбы ёсьць, то імі займаецца поле да пасеву жыта. Выбіраецца бульба дзён за 10 перад севам жыта. Пры недасьпеўшай бульбе ўраджай будзе няпоўны, але цана ў гэты час на бульбу на рынку вельмі высокая і ўраджай у 400-500 пуд. дае гаспадару 100-125 руб. Зразумела, бульбу гэту можна пакінуць і на зіму. Яна ідзе на корм жывёлы, а часткай і на выкарм сьвіней.

Выраб бульбянага папару такі: увосень вывозіцца на поле гной і заворваецца на поўную глыбіню. Вясной поле трэба ўспульхніць, але толькі ня глыбока, каб ня вывернуць на верх гною; бульбу пасеяць раней. Уся іншая праца з бульбаю будзе звычайнай.

На працягу лета бульбяны папар захоўвае вільгаць, пульхнасьць глебы і дапамагае барацьбе з сарнякамі. Гной на такі папар вывозіць не патрэбна. Жыта на ім родзіць добра. Проф. Даярэнка на дасьледчым полі Цімаразеўскай с.-г. акадэміі меў ураджай жыта на такіх папарах 138 пуд. (зярна) з дзес.. Як бачым, мала чаго менш, чым на чыстым раньнім ці чорным папары. Калі-ж прыняць пад увагу, што з поля, якое магло пуставаць, сабраны ўраджай жыта і яшчэ адзін ураджай бульбы, то ўбачым, што гаспадарка ад замены познага сялянскага папару на заняты толькі выйграе.

*Выка-аўсяны папар.* Проф. Даярэнка, робячы досьледы над выка аўсяным папарам, меў такія вынікі: выка-аўсянага сена з аднае дзес. было сабрана 241 пуд., а жыта ў наступным годзе 127 пуд. (зярна). З гэтага відаць, што для нашых умоў увядзеньне выка-аўсянага папару ёсьць шлях да ўзмацненьня гаспадаркі. Выка-аўсянае сена зьяўляецца добрым кормам дзеля скаціны на зіму—гэта вядома кожнаму селяніну. Такое сена зімою можа часткаю замяніць каню авёс. Рагатай жывёле такое сена можна даваць з прымешкаю ячнай ці аўсянай саломы.

У нашых умовах заняты папар можа ўжывацца бяз усякае рызыкі, бо вільгаці ў нас бывае заўсёды шмат. Такім чынам, увядзеньне выка-аўсянага папару павінна быць заданьнем кожнага гаспадара.

Выраб поля пад выка-аўсяны папар спаўняецца так: увосень поле няглыбока арэцца і пакідаецца так зімаваць. Вясною на яго вывозіцца гной, які заворваецца на поўную глыбіню (да 4 вяршкоў); затым высяваецца аўсяна-выкавая мешанка і барануецца; на гэтым і канчаецца ўся праца да скосу. Касіць мешанку трэба ў час красаваньня выкі, каб пасьпець узараць поле з-пад мешанкі дзён на 10 да засеву жыта.

Такі заняты папар можна раіць на шчыльных глебах; на пяскох жа лепшым будзе папар лубінавы.

А. Дзямідовіч.

Горкі, с.-г. акадэмія.

---

# Сялянскі і заняты папар.

**Найлепшы папар—заняты выка-аўсянай мешанінай: ён дае 200-300 пуд. добрага сена і пудоў 100 жыта. Сялянскі папар дае толькі ўраджай жыта.**

Нястача пашы для жывёлы прымушае селяніна пасьвіць скаціну на папары. Пры беднасьці на корм сяляне мала пакідаюць і жывёлы. Але многія яшчэ і ня падумалі аб тым, што пасучы жывёлу на папары, зямля вельмі здратоўваецца і робіцца падобнаю да дарогі. Пасеяўшы-ж жыта на такім папары, зьбярэш усяго якіх-небудзь 50-60 п. з дзес.

Зусім іншая рэч заняты папар. Гэты папар я лічу адным з лепшых. Пры гэтым папары можна сабраць пудоў 200-300 добрага выка-аўсянага сена, а пасьля вырабу поля і добры ўраджай жыта (пудоў 100-115 з дзес.)

У нашай гаспадарцы прымяняецца раньні чысты папар, папар з лубінам на ўгнаеньне і заняты. Пры гэтых папарах раньні дае пудоў на 20-25 болей, але з занятага папару зьбярэш яшчэ сена, якое вельмі каштоўна пры нястачы сенажаці і пашы.

Вырабляецца заняты папар наступным парадкам: вясною, як толькі ўправімся з сяўбою, вывозім на папар пад выка-аўсяную мешаніну гной. На 1/2 дзес. вывозім гною вазоў 60 па 25 пуд. і заворваем. Дні праз два пасьля ўзорваньня, а то і праз дзён 5, сеем мешаніну ( на 1/2 дзес. 4 п. аўса і 2 пуды выкі). Праз 4-5 тыдняў выку ўжо можна адкашваць каровам, коням і іншай скаціне, як зялёны корм. Калі выка закрасуе і авёс выкіне мяцёлку, тады мешаніну пачынаем касіць (прыблізна ў канцы чэрвеня ці пачатку ліпеня). Сабраўшы выка-аўсянае сена, поле аром і падтрымоўваем яго пульхным да самай сяўбы жыта. Пасьля такога вырабу папару жыта зьбіраецца з 1/2 дзес. 50-60 пуд.

**Селянін У. Карнейчык.**

(Сарачынава, Меншчына)

---

# Як выгадней выкарыстаць выганы і выпасы на полі.

**Лепшы выган трэба выбіраць для кароў і коняй. Авечкам патрэбен сухі выган. Сьвіньням выгараджваецца выган каля вады.**

Аб вялікай карысьці выгану для жывёлы ня трэба шмат гутарыць. Ён—неабходная рэч у гаспадарцы. З раньняй вясны пачынае выганяць селянін сваю жывёлу на выган. Сюды выганяюць коняй, кароў, авечак гусей і нават сьвіней. У такім выпадку, вядомая рэч, выган мала продукцыйны. Авечкі нізка згрызаюць траву. Вось чаму селяніну трэба рабіць так, каб каровы і коні мелі асобны выган. Асабліва шкодзяць выгану сьвіньні. Іх лепш трымаць на асобным кавалку выгану і для гэтага выгараджваць невялікі кавалак пашы каля прыродных вадаёмаў. Тады будзе ім і вада, у якой сьвіньні любяць купацца.

Авечак лепей трымаць на высокіх і сухіх частках выгану і нават там, дзе раней пасьвіліся каровы і коні; авечкі ўсё-ж змогуць нашчыпаць сабе травы.

Дзеля коняй і кароў трэба адводзіць самы лепшы выган. Добра будзе, калі частка такога выгану будзе мець балотны выгляд, а частка грудавы. Тады жывёла будзе выбіраць месца пашы па свайму густу. Але самае галоўнае, ня трэба пускаць на выган толькі адных кароў альбо коняй; у такім разе заўсёды кідаюцца ў вочы лапіны вялікай густой травы. Гэтыя лапіны травы растуць на месцы калу ці мачы жывёлы. (Трава тут, як кажуць, вельмі жырная і месца мае прыкры пах.) Гэтае травы ня хоча есьці карова, калі гэта быў яе кал. Вось чаму карысьней пасьвіць кароў і коняй на адным выгане. Бывае часам і так, што такіх кустоў не чапае ні конь, ні карова. Трава расьце буйна і часта зьнізу падаправае, жоўкне і прападае. У такіх выпадках яе можна скасіць і даваць сьвіньням ці сушыць на сена.

Часта трапляецца, што на выгане расьце featureзнае нясмачнае зельле. Некаторыя з такіх траў, калі высушыць, трацяць свой горк і прыкры смак. У такіх выпадках трэба лапіны травы выкашваць і сушыць на сена. Калі-ж яе не касіць, то гэта шкодная трава займае ўсё большыя і большыя плошчы і можа зрабіць выган бескарысным. Пасьля выкасу добрая трава абганяе зельле і выган паляпшаецца.

С. Кот.



# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Досьлед з турнэпсам.

(*З уласнае практыкі настаўніка*).

**150 кв. саж. поля далі 160 пуд. турнэпсу пры самым дрэнным доглядзе. На дзесяціну выходзіць 2560 пуд. ураджай.**

Узімку 1924-25 навучальнага году ў хаце-чытальні я вёў гутарку з сялянамі па сельскай гаспадарцы наогул і паміж іншым, аб карысьці караньплодаў. Моладзь была са мною згодна, а старэйшыя і слухаць не хацелі. Толькі пасьмейваліся над „новай выдумкай“.

Вясною 1925 году, каб падмацаваць свае гутаркі прыкладам, я з суседам настаўнікам пасеяў на школьным вучастку турнэпс. Насеньне яго дасталі ў с-г. крэдытовым таварыстве. Папаўся нам сорт Остэрзундомскі. Ён дае доўгія і тоўстыя карані. Верхняя частка караньплода вылазіць з зямлі і мае цынамонаваю афарбоўку, а падземная частка белага колеру. Мякаць таксама белая, бацьвіньне буйное.

Частку атрыманага насеньня мы раздалі вучням і некаторым сялянам, а самі засеялі кавалак у 150 кв. сажн. які быў угноены часткаю за год да пасеву турнэпсу, а часткаю за два гады. Угнаеньня мы не дабаўлялі. Узаралі вучастак два разы вясною, на глыбіню 4 вярш., баранавалі звычайнай жалезнай бараной. *Высеялі насеньня 9 траўня* (V мес.) *з бутэлькі праз гусінае пяро.*

Турнэпс узышоў добра. Але догляд за ім быў кепскі таму, што ў самы важны час мы былі на курсах перападрыхтоўкі. За ўвесь час росту мы здолелі толькі адзін раз прапалоць яго і асыпаць конным асыпнікам і адначасна прарваць. У часе нашай адсутнасьці на наш вучастак забягалі сьвіньні і каровы, бо ён быў дрэнна абгароджаны.

Аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, у другой палове лета турнэпс наш разросься так, як мы і не спадзяваліся. Тыя старыкі, якія раней сьмяяліся над намі, цяпер толькі дзівіліся, разводзілі рукамі, ды шкадавалі, што не паслухалі нас у свой час. Турнэпс знаходзіўся каля дарогі; часта заходзілі паглядзець на яго праежджыя сяляне і з другіх вёсак. Усе яны згаджаліся з тым, што пасеў турнэпсу выгадней за збожжа.

Лета 1925 г. было мокрае, а вучастак наш ляжаў у нізіне. На ім застайваліся лужы вады, якую ніяк нельга было спусьціць. Праз гэта каля чверці ўраджаю згніло на месцы і ўсё-ж мы дасталі 160 пудоў. На дзесяціну гэта дае 2560 п..

Частку караньплодаў я закапаў у ямку, каб вывесьці сваё насеньне.

Добра ўдаўся турнэпс і ў нашых вучняў. Увосень на раённай выстаўцы мы атрымалі прэмію за турнэпс.

Мне ня трэба агітаваць за турнэпс, бо лічбы, якія мы атрымалі, самі за сябе кажуць. Скажу толькі тым сялянам, якія ня хочуць верыць: калі ня верыце словам агрономаў, дык самі паспрабуйце зрабіць маленькія досьледы. Даволі ўжо спаць!

Другі досьлед я зрабіў з лубінам, які ўвосень 1925 г. заараў зялёным і засеяў жытам. Пра яго вынікі напішу пасьля таго, як зьбяру ўраджай.

Л. Чалоўскі.

(Сяло Печчары, Калінінскае акругі).

# Як мы завялі канюшыну.

(*Хутар Вербы, Чачавіцкі раён, Магілеўшчына*).

На хутары мы перашлі толькі ў 1914 г. каб пазбавіцца страшэннага далёказямельля. Нам выпаў хутар на полі, ад якога лес знаходзіцца ў $^1/_2$ вярсты. У 1915 годзе пераехалі на хутары і пачалі будаваць гаспадарку. У гэты час кароў пасьвілі ў лесе, а коням ня было месца, бо папар зьбівалі свае сьвіньні і авечкі. Трэба было шукаць выхаду. Агроном параіў сеяць траву-канюшыну. Бацька ахвотна купіў 5 фунтаў насеньня на спробу. Поле падрыхтавалі добра і пасеялі з аўсом; к восені авёс высьпеў, а травы ня было такой, як мы чакалі. Вырасла толькі траўка роўная з іржышчам. Мы пусьцілі коняй, бо касіць нельга было. Коні хутка павыядалі канюшыну. На другі год вясной, як сышоў сьнег, мы ўзялі граблі і зграблі іржышча. Прашоў дожджык і канюшына зазелянела. Год быў мокры. К 15 ліпеня канюшына пачала красаваць. Агроном параіў скасіць, а кавалак пакінуць на насеньне. Мы так і зрабілі. К восені вырасла яшчэ атава, якую таксама скасілі. Бацька вельмі шкадаваў, што мала пасеяў канюшыны. Дужа яна яму спадабалася.

Увосень, калі пасьпеў насенны кавалак канюшыны, мы асьцярожна яго скасілі, добра высушылі і давай малаціць. Насеньне доўга ня выбівалася, тады падсушылі ў ёўні і сталі зноў выбіваць зярно з галовак. Але і цяпер мы ўбачылі, што зярно чыста нельга вымалаціць. Бацька ўзяў і сабраў усю канюшыну з галоўкамі. У 1917 годзе гэтым насеньнем мы засеялі ўжо каля $^1|_2$ дзес. Ураджай быў добры: было і коням і цялятам. А на нас гледзячы, пачалі сеяць і суседзі. Цяпер у кожнага гаспадара ёсьць хоць $^1|_4$ дзес. канюшыны.

Такім чынам мы пазбавіліся ад бяскорміцы. На трэці год на канюшыне мы заўсёды пасём коні і далей адзін раз аром і сеем жыта. Памятаю, што першы раз жыта было, як чарот і каласістае. З таго часу мы кожны год сеем ня менш $^1|_2$ дзес. канюшыны і насеньне маем сваё. У 1925 годзе вясной нават прадалі Магілеўскаму насеннаму таварыству 20 фун., а таксама і сялянам. З таго часу мы атрымоўваем *ільготу па падатку і наша гаспадарка лічыцца культурнай*. Сеем таксама лубін і выку. У гэтым годзе думаем пасеяць яшчэ сэрадэлю.

Таварышы земляробы, у каго мала сенажацяў, хто гаруе ад бяскорміцы, сейце травы (канюшыну, выку, сэрадэлю)—тады вы зьнішчыце нашага ворага бяскорміцу, якая пануе і сёлета вясной у нашай старонцы.

Селянін **Я. М. Савіцкі.**

# Як атрымаць 90 п. выкавага сена з ¼ дзес.

### Папар трэба займаць выкаваю мешанінаю.

У 1924 годзе я папар вырабіў такім чынам: як толькі можна было ўзыйці на поле, я вывез на ¼ дзес. 30 вазоў гною па 20 п. (2.400 п. на 1 дзес.). У палове траўня высеяў мешаніну выкі з аўсом і гарохам (аўса 2 часткі, а выкі з гарохам па 1 частцы)—усяго 3 пуды насеньня. Калі падлічыць насеньне і працу, дык выйдзе, што насеньне каштуе 4 р. 50 к. (па 1 р. 50 к.) і ўсе працы—2 р. 20 к. (½ дня касіць, ½ дня прыбіраць з коп і вазіць, ½ дня сеяць). Баранаваньня і ворыва я ня лічу, бо яны патрэбны і пры чорным папары.

Прыбытку будзе 90 пуд. сена па 60 кап., як прадавалі ўвосень—знача, маем 54 руб. Вылічыўшы з іх 6 руб. 70 кап., будзем мець 47 руб. 30 кап. прыбытку з ¼ дзесяціны ці з дзесяціны 189 р. 20 к. Гною я таксама ня лічу, бо і пад жыта яго трэба класьці.

У тым-жа годзе быў у мяне і раньні чысты папар. У 1925 годзе з ¼ дзес. я сабраў жыта па занятаму папару 6 коп, з якіх атрымаў зярна 32 пуды. З раньняга-ж папару нажаў 8 коп. і намалаціў 40 пуд. Недабору 8 пуд. жыта і саломы 18 пуд. Лічачы пуд саломы 35 кап. і 1 пуд жыта 1 руб., я не дабраў 14 руб. 30 к. з чвэрткі дзес. Але палічыўшы выкавае сена на 54 р., выйдзе, што заняты папар з ¼ дзес. даў прыбытку 33 руб. ці на 1 дзес. 133 руб. у параўнаньні з чыстым раньнім.

Я раю ўсім гаспадаром у гэтым годзе ўвесь папар заняць выкаваю мешанінаю. Будзе шмат корму ў гаспадарцы, а будзе корм—і будзе малако.

Пасьля прыборкі травы на сена яшчэ застаецца шмат часу на выраб поля пад жыта. Пакідаць-жа поле пад папарам нявыгадна для гаспадаркі. Таксама і позны сялянскі папар, які служыць выпасам статку і арэцца ў ліпені ці чэрвені, дае гаспадару толькі страту. Няхай кожны селянін, чытач „Плуга“, сам падрахуе свае страты ад папарнага поля і тады кожны ўпэўніцца, што *заняты папар—шлях да ладняцьця сельскай гаспадаркі.* **Сел. А. Карнейчык.**

(Сарачынава, Менск. акругі).

---

# Як зьнішчыць сарнякі.

*(Вёска Шмакі, Чачавіцкага раёну, Магілеўшчына).*

Пры далёкім полі вывозіць гной на яго немагчыма. На такім полі сарнякоў заводзіцца вельмі шмат. У 1924 годзе на аднэй такой палосцы пасеялі мы яравое жыта, але яго заглушыла трава—куколь і сьвірэпка. Ураджай быў вельмі дрэнны, ледзь сабралі насеньне. Назаўтра я ўзараў гэта іржышча, каб яно прэла і перагнівала. Пад восень я ўбачыў, што наша палоска пакрылася зялёнаю травою—гэта ўзышла сьвірэпка і пачынала ўжо зацьвітаць. Бацька і кажа, што цяпер поле будзе без сарнякоў, бо сурэпка ўзышла, але памерзьне.

Вясной 1925 г. мы пасеялі там выку. Выка парасла вельмі добрая. Травы, якая была тут раней, ня бачылі і каліва. З таго часу, як толькі прыбіраем ураджай, *поле ўзорваем* і *такім чынам вядзем барацьбу з сарнякамі.* Пры засьмечаным полі, як ні сартуй насеньне, усёроўна сьвірэпку ня выведзеш, пакуль не пачнеш араць поле раней, каб да восені прарасталі сарнякі. Селянін **Я. М. Савіцкі.**

# Трэба разводзіць лепшае насеньне.

Мала хто ў вёсках мае новыя сарты збожжа. Большасьць сялян сеюць дробным зярном. З такога зярна многа не намалоціш. А ёсьць розныя сарты і добрага збожжа. Такога збожжа шмат у саўхозах. Некаторыя гаспадары яго заводзяць, але мала. Здабыць-жа і пасеяць сартовае насеньне вельмі карысна. З такога насеньня і ўраджай будзе ўдвойчы ці ўтройчы большы. Трэба ўзяцца за разьвядзеньне лепшага сартовага насеньня. На гэта трэба зьвярнуць увагу мясцовай уладзе і паклапаціцца, каб селяніну можна было даставаць такое насеньне. А разводзіць такое насеньне селянін будзе.

(Сьмілавіцкі раён). **Бульбянік.**

# Якую карысьць я маю ад балота.

**У 1923 г. на балоце былі высечаны ўсе кусты і карчы. Вясною 1924 г. балота было асушана. У 1925 г. дзьве дзесяціны далі каля 350 пуд. сена.**

Хутар я маю з 9 дзесяцін. Пахаці 4 дзес., сенажаці 3 і балота 2 дзес. Перш, як перайшоў я на хутар, ад балота ня меў ніякае карысьці (у 1920 г. ўтапілася добрая карова). Балота гэта дрэннае, топкае, парасло было лазой і дробнымі кустамі, дзе-нідзе нізкім сасьняком. З траў на балоце расла толькі асака-разуха. Высокія купіны не давалі касіць, але ня было ніякае карысьці ад таго сена, бо яго ня елі ні каровы, ні коні і яно ішло на подсьціл.

У 1922 годзе я пачаў распрацоўваць гэта балота. Перш я выцерабіў усе кусты, з якіх вышла шмат дроў. Дробны хвораст я злажыў у кучы і спаліў. Касіць у 1922 г. мне не ўдалося, бо траву я ўсю стаптаў цярэбячы кусты.

Далей я прыняўся за раскарчоўку. Праца была вельмі цяжкая, але насілася думка, што далей будзе добрая сенажаць і падмацоўвала мяне.

За лета я вычысьціў усе карчы; засталіся толькі тоўстыя. Летам 1923 г. я прыняўся і за іх, і з цяжкімі патугамі вычысьціў і іх. Сена і ў гэтым годзе я не атрымаў, бо калі высякаў карчы, то маё балота стала падобным да пахаці.

Увосень 1923 г. дажджы налілі шмат вады; балота абярнулася ў возера. Аднаго разу я пашоў паглядзець яго і ўбачыў, што балота маё спадае на поўдзень, вада цячэ памалу. Тут мяне ахапіла думка пракапаць канаву і зрабіць з балота сенажаць ці пахаць.

Вясною 1924 г., як толькі з балота сышла вада, я паклікаў агронома, каб ён параіў, што і як рабіць. Мы вызначылі спад і намецілі дзе пракапаць канаву. Як прасохла зямля, я наняў чатырох чалавек і пачаў капаць канаву (2 арш. шырыні і $1^1/_2$ арш. глыбіні). Усяго пракапалі каля 100 сажн. (па 7 кап. за сажань). Адразу маё балота пасушэла і к восені я ўжо мог паехаць на кані, перавёз з канавы ўвесь торф на ніву, разбіўшы на дробныя кавалкі. Жыта па торфу ўдалося добрае (з дзесяціны намалаціў каля 90 пуд.).

Такім чынам, за 7 руб., ня лічачы сваёй працы, я атрымаў каля 40 руб. Апрача таго, у 1925 г. я накасіў з 2 дзес. каля 350 пуд. сена. Сёлета думаю пасеяць травы. Спадзяюся, што балотная сенажаць будзе даваць мне сена, а ранейшыя сенажаці абярну ў пахаць.

(Межанскі раён, Віцебшчына). Сел. С. Сялюкін.




## Тэмы для вопытаў с.-г. гурткоў і дзіцячых клюбаў.

Праца с.-г. гурткоў і дзіцячых клюбаў не павінна абмяжоўвацца толькі вырашчваньнем паасобных расьлін, але пажадана гэту працу паглыбіць паказальнымі вопытамі. На іх, як дзеці, так і дарослыя ўбачаць правільны пасеў і догляд гародніны. Лічу, што ня сказам, а паказам лепш пераканаць селяніна. Вопыты могуць быць такія:

### I. Вывучэньне сартоў капусты.

Характар працы.

Пасадзіць на аднолькавыхградах па 10-20 расьлін капусты *летняй* (вальвацьеўкі, дзітмаркі), *сярэдняй* (брауншвэйскай) і *познай* (сабураўкі, пышкінскай швэцкай.)

Тэорэтычныя тлумачэньні.

Значэньне сорту ў гародніцтве. Ад сорту залежыць колькасьць і якасьць ураджаю, пэрыод росту і час карыстаньня. Гушчыня пасадкі капусты, запатрабаваньні да глебы, уплыў хваробы і інш.

### II. Час поліва.

Пасеяць сталовыя буракі на плошчы ў $1^1/_2$-3 саж. на 30 см. радок ад радка і затым прапалываць: $^1/_3$ плошчы пасьля поўных усходаў, другую $^1/_3$ праз 10 дзён, і трэцюю частку праз 20 дзён пасьля ўсходаў. Іншы догляд аднолькавы.

Растлумачыць значэньне своечасовага поліва ўсходаў расьлін. Паказаць, як гэта робіцца ў сялян. Барацьба сарнякоў і добрых расьлін за жыцьцё.

### III. Час прарываньня.

Пасеяць, як паказана вышэй. Прарываць першую трэць праз тыдзень пасьля ўсходаў, пакінуўшы ў радку паміж расьлінамі 5 см. Другую частку прарваць праз 15 дзён і адначасова з гэтым прарваць яшчэ і першую $^1/_3$, пакідаючы адлегласьць паміж расьлінамі ў 10 см. Трэцюю частку прарваць праз 30 дзён на 20 см., у гэты-ж час прарваць і першыя два вучасткі.

Растлумачыць значэньне своечасовага прарываньня. Патрабаваньні расьлін адносна плошчы, якую яны займаюць. Карыстаньне гароднінай пры прарываньні.

### IV. З аднае плошчы 2 ураджаі.

Пасеяць моркву радок ад радка на 25 см. з падсевам аўса. Морква марудна ўсходзіць і авёс да поўных усходаў будзе паказваць радкі морквы. Так лягчэй палоць моркву. Паміж радкамі пасеяць радыску або салат. Пакуль падымецца морква, гэтыя расьліны пасьпеюць.

Пры правільным доглядзе за гароднінай можна мець 2 ураджаі ў адно лета. Гэта мае вялікае значэньне для прыгарадных вёсак, дзе зямлі мала.

## Вопыты з дзічкамі.

### V. Вырашчваньне дзічак з зялёнай пікіроўкай і без яе.

Пасеяць на невялічкай градцы ў 1-2 кв. саж. насеньне яблыны густа (па 6-10 зярнят і на 4 вярш. радок ад радка). Усходы рассадзіць на 4 вярш. Такі-ж лік насеньня пасеяць рэдка (па 1-2 зярняткі і на 1 вярш. адлегласьці ў радку). Усходы пакінуць расьці на месцы ўсё лета.

Пры пікіроўцы абрываюць галоўны корань, што дапамагае разьвіцьцю дробных карэнчыкаў. Няўмела зробленая пікіроўка шкодна адбіваецца на сеянцах. Таксама робіцца падлік сеянцаў як першай, так і другой групы, і час працы.

### VI. Уплыў прысланага гною на разьвіцьцё сеянцаў яблыны.

Градку з сеянцамі ў 2 кв. сажні зьверху аблажыць перапрэўшым гноем на 1-2 см., а адну градку пакінуць без угнаеньня.

Угнаеньне кампостам ці перапрэўшым гноем з вясны робіць зямлю пульхнай і багатай пажыўнымі матэрыямі, якія спрыяюць добраму росту дзічак (сеянцаў).

**Р. Гуржы.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія.)

# Перасадка дарослых пладовых дрэў.

У зьвязку з земляўпарадкаваньнем часта даводзіцца перасаджваць дарослыя пладовыя дрэвы з аднаго месца на другое. Маючы на ўвазе такую перасадку, трэба дрэва падрыхтаваць да яе своечасна. Пры перасадцы старога дрэва трэба выклікаць у яго рост маладых карэньняў і па магчымасьці бліжэй да ствала, бо перасаджанае дрэва, маючы такія карэньні, будзе зараз-жа пасьля перасадкі здабываць з зямлі патрэбны лік мінэральных матэрый і вады, а знача хутчэй і лепш прымецца.

Дзеля гэтага ў пачатку восені або рана вясной дрэва акапваецца навокал канавай на адлегласьці $^{1}/_{2}$—$1^{1}/_{2}$ арш. ад ствала, у залежнасьці ад узросту, і глыбінёю каля 1 арш. Усе карэньні пры гэтым перасякаюць сякерай, а раны загладжваюць нажом. Калі гэта зроблена, канаву засыпаюць зямлёю, перамяшаўшы яе з кампостам або старым перагніўшым гноем і добра паліваюць вадой.

У працягу лета перарэзанае карэньне дасьць новыя карэнчыкі і мочкі і ўвосень або наступнай вясною дрэва ўжо можна перасаджваць на новае месца. Пры перасадцы яму капаюць глыбей вяршкі на 3—4 чым першы раз, каб не пашкодзіць маладым карэнчыкам.

Для пасадкі сваячасна выкапваюць ямку, на дно яе насыпаюць добрае зямлі і на гэту зямлю ставяць дрэва, засыпаюць добрай зямлёй і паліваюць.

Садзіцца дрэва на такую-ж самую глыбіню, на якой яно сядзела раней. Пасьля пасадкі дрэва прывязваецца да калка. Для абароны ад сонцапёку ў першае лета пасьля пасадкі ўвесь штамб і тоўстыя сукі павінны быць абвязаны мохам ці саломаю, якую патрэбна час ад часу паліваць, каб зьберагчы кару ад высыханьня.

Глебу пад дрэвам таксама трэба паліваць і прыцяняць саломаю, лісьцем, гноем і інш.

Карона пры перасадцы абразаецца на $^1/_5$ або на $^1/_3$ у залежнасьці ад стану карнявой сыстэмы,—чым карэньняў менш і чым больш пры выкапваньні яны былі пашкоджаны, тым абрэзка кароны робіцца большая і наадварот.

Ня трэба абразаць усе маладыя галінкі, бо яны даюць дрэву магчымасьць распусьціцца вясной сваячасна.

Парэзы (раны) на галінах замазваюцца садовай замазкай. Перасадку выносяць пладовыя дрэвы ва ўзросьце ня больш 20—25 г. Больш старыя перасаджваць ня варта. Гады праз 3—4 перасаджанае дрэва ўжо пачынае добра пладанасіць.

(Горкі, с.-г. Акадэмія). **А. Карлсон.**

# Як сеяць і ўзрашчваць насеньне гародных расьлін.

**Для гадоўлі свайго гароднага насеньня. Трэба мець апрабаваныя сарты насенных таварыстваў, або дасьледчых станцый. Гадоўля гароднага насеньня—даходная справа.**

Гародніцтва ў Беларусі стаіць на вельмі нізкай ступені разьвіцьця, між тым яно зьяўляецца даходнай галінай гаспадаркі.

Вельмі важна забясьпечыць сябе добрымі гароднымі расьлінамі. Лепш усяго узрашчваць сваё насеньне, але пры гэтым трэба ўмець па надворнаму выгляду адрозьніваць сорт і якасьць насеньня.

Гароднае насеньне захоўвае ўсходжасьць у працягу рознага часу што можна бачыць з табліцы.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Боб | захоўвае | ўсходжасьць | 2-6 г. | Гуркі | захоўв. | ўсходжасьць | 6-10 г. |
| Гарох | „ | „ | 3-8 „ | Рэдзька | „ | „ | 3-6 „ |
| Бручка | „ | „ | 5-7 „ | Салата | „ | „ | 4-6 „ |
| Капуста | „ | „ | 4-5 „ | Буракі | „ | „ | 4-6 „ |
| Морква | „ | „ | 2-4 „ | Памідоры | „ | „ | 3-6 „ |
| Гарбузы | „ | „ | 5-8 „ | Фасоля | „ | „ | 6-8 „ |
| Укроп | „ | „ | 2-5 „ | Капуста кальрабі | | „ | 3-4 „ |

Як-жа ўзрашчваць гародныя расьліны на насеньне?

*Капуста качанная.* Перазімаваўшыя качарэжкі капусты тыдні за два да высадкі ў грунт трэба выняць з падвала, каб іх паступова прывучыць к сьвежаму паветру і сьвету, і палажыць шчыльна адзін да другога ў пусты парнік або скрынку. Карэньні трэба прысыпаць зямлёй, а зьверху прыкрыць яловымі лапкамі або чым-небудзь іншым. Праз некалькі дзён паступова іх здымаць і за некалькі дзён да высадкі зусім прыняць.

Калі насеньнікі захоўваліся цэлымі качанамі і не прарасьлі ў падвале, то пры высадцы трэба зьверху качана зрабіць глыбокія надрэзы. Гэта робіцца для таго, каб хутчэй расьлі насенныя сьцяблы з верхніх пучкоў. Догляд за імі складаецца з выпалваньня сарнякоў і ўспульхненьня зямлі час ад часу. Апрача таго, калі на расьліне, акрамя галоўнага сьцябла, зьявіцца яшчэ цэлы куст сьцяблоў, то слабейшыя з іх трэба абрэзаць, пакідаючы на расьліне 4-6 мацнейшых галін.

Высьпявае насеньне капусты паступова, пачынаючы зьнізу. Загэтым і прыборка насеньня можа быць паступовай або абразаньнем цэлых галінак. Зрэзаныя насенныя сьцяблы вяжуць у нявялікія пучкі і падвешваюць у сухім памяшчэньні, каб яны высахлі; пры гэтым трэба глядзець, каб насеньне не асыпалася. Добра прасушаныя насеньнікі вымалачваюцца ў мяшкох палкаю.

*Гадоўля насеньня бручкі, рэпы, рэдзькі* амаль нічым не адрозьніваецца ад капусты. Трэба толькі зазначыць, што адлегласьць для насеньнікаў рэпы пры пасадцы патрэбна меншая, (8×8 або 8×12 вярш.) у той час, як для іншых расьлін адлегласьць павінна быць 16×16 вярш.

*Насеньнікі буракоў* высаджваюцца крыху пазьней насеньнікаў іншых расьлін, бо яны вельмі баяцца прымаразкаў.

*Усе сарты буракоў* лёгка апылкоўваюцца паміж сабою. Затым ня трэба разводзіць розныя сарты блізка адзін ад другога, каб яны хутка не зьвяліся. Пры пасадцы трэба ўвесь корань укапаць у зямлю і нават крыху прыкрыць зямлёю пучкі. Таксама карысна зацяніць глебу каля карэньняў саломістым гноем. Адлегласьць паміж насеньнікамі павінна быць ня менш 16×16 в. (у залежнасьці ад багацьця глебы). Насенныя кусты трэба падвязваць да калкоў, каб вецер не зламаў і ня вывернуў куста з карэньнем.

Пасьпявае насеньне буракоў не роўнамерна, але гэта не перашкаджае зразаць адразу ўвесь куст, бо клубочкі добра трымаюцца на галінах. Зрэзаныя кусты трэба прасушыць на двары, а затым пераносіць у памяшчэньне, якое добра праветрываецца.

*Морква*. Гадоўля насеньня морквы адрозьніваецца тым, што насеньнікі яе можна высаджваць на месца самай раньняй вясной: яны не баяцца прымаразкаў. Зьбіраюць насеньне паасобнымі галінкамі, як толькі яно пасьпее бо насеньне морквы лёгка асыпаецца.[1])

Пры пасеве гароднага насеньня перш усяго трэба мець на ўвазе цяплыню, якая неабходна для прарастаньня насеньня; ад гэтага залежыць скорасьць прарастаньня насеньня. Напрыклад, насеньне рэпы, морквы, бруквы пачынае прарастаць пры цяплыні мала чаго больш $0^0$, а іншае, наадварот, патрабуе даволі высокай тэмпэратуры для прарастаньня, што можна бачыць з табліцы.

| НАЗВА РАСЬЛІНЫ | Цяплыня па Р | НАЗВА РАСЬЛІНЫ | Цяплыня па Р |
|---|---|---|---|
| Капуста, бручка | 2-3 | Буракі | 4-5 |
| Рэпа | 2-3 | Гуркі, гарбузы | 12 |
| Гарох | 1-2 | Радыска, рэдзька | 2-3 |
| Фасоля | 10 | Бульба | 3-4 |
| Морква | 4-5 | | |

[1]) Для таго, хто займаецца гадоўляй насеньня ў больш шырокім разьмеры, раю кнігу проф. Жэгалава „Разведение огородных растений на семена“.

Далей паказваю, колькі часу трэба мачыць рознае насеньне.

| НАЗВА РАСЬЛІНЫ | Лік гадзін | НАЗВА РАСЬЛІНЫ | Лік гадзін |
|---|---|---|---|
| Боб | 6-12 | Рэдзька | 6-8 |
| Гарох | 12-24 | Рэпа | 6-8 |
| Капуста | 12-24 | Салата | 12-24 |
| Морква | 48-82 | Буракі | 6-96 |
| Гуркі | 24-36 | Фасоля | 6-12 |
| Радыска. | 6-8 | Укроп | 24-72 |

Прамачваць насеньне трэба ў цяплаватай вадзе. Калі насеньне прамачваецца больш сутак, то ваду трэба мяняць кожны дзень.

Мачыць насеньне вельмі карысна перад позным пасевам, калі зямля ўжо добра прасохла.

Г. Крупень.

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# Некаторыя нагляданьні за ростам гуркоў.

За апошнія гады ва ўмовах Усходняе Беларусі гуркі неяк неўдаваліся. Гароднікі наракалі на халодную пагоду. Насельніцтва не магло дачакацца нават і ў канцы ліпеня сваёй лепшай стравы—гуркоў. Цана на гуркі ў 1923—24 годзе была вельмі высокая. Весткі з Нямеччыны за апошнія гады таксама гавораць аб няўдачы з гуркамі.

Гуркі родам з цёплых паўднёвых краёў, дзе яны вядомы, як ліяны, што ўюцца па дрэвах.

Да нашых варункаў гуркі даўно ўжо прызвычаіліся. Нажаль, нашы нагляданьні і навуковыя досьледы з гэтымі расьлінамі вельмі нязначныя. Вядома, што спачатку гуркі, як і іншыя расьліны, шпарка растуць. Праз 2—2½ мес. пасьля пасеву ўжо пасьпяваюць плады.

Мы павінны добра сачыць за гуркамі ў першыя дні іх росту. Пасеў гуркоў вымагае ведаў і зручнасьці. Трэба асьцерагацца позных прымаразкаў, якія каля 5-га траўня ўжо зьнікаюць. Выпадковыя прымаразкі пазьней мажлівы, але травень у нас найбольш спагадны месяц. Дзеля Горак мы маем у траўні 12,5° цяпла. У Аршаншчыне каля 15—20 траўня можна прыступіць да пасеву гуркоў, а перасяваць іх магчыма і да апошніх дзён гэтага месяца. Агульнае зьявішча ў нашых варунках тое, што гурковыя расьліны ў пачатку чэрвеня на 4—6 лістку зусім затрымоўваюцца ў росьце і застаюцца да канца лета гэткімі малымі. Патроху цьвітуць, але ўраджаю бадай ня відаць.

За астатнія 4 гады мы ўпэўніліся, што пры лепшых умовах пасеву, глебы, догляду і г. д. *узрост гуркоў затрымоўваюць халодныя паўночна-ўсходнія і паўночна-заходнія ветры*, якія ў Аршаншчыне вядомы ў чэрвені. Затрыманыя ва ўзросьце гурковыя расьліны застаюцца малымі і да восені.

У местачковых гародах заўсёды маюцца гуркі. У некаторых гароднікаў з м. Баева (Аршаншчына) за апошнія гады гуркі выпадкова высяваліся вузкай стужкай паміж двумя „сьценамі“ жыта і добра ўдаваліся (у суседзяў гуркоў у той год ня было).

Мы лічым, што маладыя расьліны гуркоў у пачатку чэрвеня павінны мець абарону з якіх-небудзь хутка растучых расьлін. Добрая абарона можа быць створана высадкамі капусты, якія высаджваюцца ў сярэдзіне красавіка (4) і ў пачатку чэрвеня дасягаюць больш 70 см. вышыні. Магчыма знайсьці іншыя расьліны ў якасьці „абаронцаў“.

Калі гэта заданьне будзе споўнена, то тады пэўныя ўраджай гуркоў будзем атрымоўваць штогод.

(Горкі, с.-г. Акадэмія). **М. Бурштэйн.**

---

# Разводзьце суніцы.

Я буду гаварыць аб разьвядзеньні той ягады, якую сяляне называюць клубнікай. Правільная-ж яе назва буйнаплодная суніца.

Трэба сказаць, што ніводная ягадная расьліна не аплачвае так добра працу, як суніца. Яна хутка дае ўраджай. Калі пасадзіць суніцы летам (у жніўні мес.), то на наступны год яна дае амаль поўны ўраджай.



Суніцы—Юконда і Вікторыя.

Попыт на гэтыя ягады заўсёды вялікі; у мінулым годзе пры нястачы лясной суніцы яе бралі на расхват і плацілі 30 кап. і больш за фунт.

Наколькі выгадна разьвядзеньне гэтае ягады можна бачыць з таго, што сяляне, якія жывуць каля Масквы, Ленінграду і Кіева ў даваенны час мелі чыстага прыбытку каля 1200 руб. з дзес. Сярэдні даход ня менш 600 руб. з дзес.

*Як-жа правільна пачаць разводзіць суніцы?* Перш усяго трэба выбраць адкрытае месца каля берагоў рэчак, сажалак і г. д. Месца гэта не павінна залівацца асеньнімі водамі. Таксама добра садзіць суніцы ў гародах і паміж радамі маладых пладовых дрэў. Вучастак

трэба добра вырабіць і палажыць угнаеньне. Лепш пад суніцы класьці перапрэўшы гной. Затым угноены вучастак перакапаць рыдлёўкай ці ўзараць плугам на глыбіню 8-9 вярш. Глебу раўняюць бараной або граблямі і выбіраюць сарнякі і карэньні. Далей намячаюць грады або радкі. Калі ў глебе няма лішку вільгаці, то пасадку можна рабіць сплош-радамі (рад ад раду і расьліны ў радкох павінны быць на адлегласьці 8 вярш.).

Калі месца нізкае, то градкі трэба рабіць вышынёю 4 вярш. пры шырыні іх градак $1^1/_2$ арш. На такой градзе садзіцца ўздоўж 3 рады суніц у шахматным парадку.

Садзіць суніцы лепш у палове жніўня. Пасаджаныя ў гэты час расьліны пасьпеюць да пачатку марозаў укараніцца, добра перазімуюць і на наступны год дадуць амаль поўны ўраджай. Можна садзіць суніцы і вясной, але ўраджай тады будзе толькі на наступны год. Садзіць суніцы лепш у хмарную пагоду. У ясны жа сонечны дзень лепш садзіць зранку або пад вечар.

Пры пасадцы трэба зьвяртаць увагу, каб карэньні не задзіраліся ўверх або ня клаліся комам; карэньні павінны глядзець ва ўсе бакі.

Пасьля пасадкі навокал кожнай расьліны робіцца невялічкая ямка, у якой будзе затрымоўвацца вада, як у час паліваньня, так і ад дажджу. Паверхню град зараз-жа пасьля пасадкі трэба прыкрыць тонкім слоем добра перапрэўшага гною, які затрымоўвае летам вільгаць, а зімой цяплыню.

Расаду суніц дастаць цяжка, але ўсё такі яе дастаць можна, напрыклад, у комунальнай гаспадарцы ў г. Менску. Таксама ў невялікай колькасьці добрую сартовую расаду суніц можна дастаць у Беларускай сельска-гаспадарчай акадэміі (г. Горкі), дзе рабілася апрабаваньне каля 26 сартоў суніц. **Д. Новікаў.**

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Парады па пчалярству.

**Пчалярства ня можа само сабою весьціся. Асабліва пільны догляд за пчоламі патрэбен вясною і ў час гадаваньня пчалінай дзеткі.**

Пчалярства нашымі сялянамі вядзецца надта дрэнна, бяз усякага палепшаньня ў гэтай галіне гаспадаркі. Калода наша мала чым адрозьніваецца ад таго дупла, дзе вадзіліся пчолы даўней, тысячу год таму назад. Глядзіць селянін на пчалярства, як на нешта такое, што не патрабуе ні працы, ні сродкаў; пчалярства быццам можа само сабою весьціся.

Звычайна гаспадар ведае толькі ўвосень выразаць мёд, а ў пятроўку абабраць рой, калі ён выляціць з калоды. А раеў можа быць чым больш. Такі-ж погляд няправільны. Рой зьнясільвае сям'ю; толькі дужая сям'я зможа наносіць шмат мёду, зможа ўзімку саграецца і бараніцца ад нападу чужой пчалы.

За пчоламі патрэбен пільны догляд. Асабліва трэба добра даглядаць пчол рана вясною, калі яны пачынаюць вылятаць на аблёт, а пасьля і за мёдам. Вясною кожны вулей аглядаюць у цёплы дзень (ня менш 12° цяплыні), каб не застудзіць чарвы на холадзе. Вулей трэба ачысьціць ад зімовага сьмецьця. Пры аглядзе вульля відаць, ці хапае мёду на корм. Калі яго мала, то трэба падлажыць, бо вясною

пчолы ядуць больш. Трэба адзначыць, што пчала ня можа галадаць: пад‘еўшы пасьля галадоўкі яна праз тры дні памірае.

Пасьля доўгае зімы вясною рабочыя пчолы пачынаюць клапаціцца аб сотах: ачышчаюць іх ад парушынак, пчалінага калу і г. д. Заплодненая матка пачынае класьці яечкі ў соты. З заплодненых яечак выходзіць рабочая пчала, а з незаплодненых трутні. Рабочыя пчолы даглядаюць чарву: яны кормяць яе сваім малаком, а пасьля запячатваюць. На 21 дзень, як матка палажыла яечкі, выходзяць маладыя пчолкі на зьмену старым. Гэты пэрыод самы важны. Трэба, каб у гэты час быў вельмі пільны догляд: каб у пчол быў корм, бо кепска кормленая матка дае больш трутняў, а добра кормленая—рабочых пчол.

Трэба, каб было цёпла ў вульлі, бо дзетка можа застудзіцца і з гэтага захварэць гнільцом.

Пчолам трэба дапамагчы падрыхтавацца да галоўнага ўзятку, які хутка наступіць, як закрасуе ліпа, а ў полі выка, гарох, дзятліна, грэчка, сэрадэля і інш. расьліны. Трэба, каб да гэтага часу сям‘я сфармавалася, каб вышлі маладыя рабочыя пчолы, каб ячэйкі апрасталіся для нектара (мёду), каб была штучная вашчына і г. д. Як толькі будзе запоўнена і запячатана рамка, трэба зараз-жа падстаўляць на яе месца новую са штучнай вашчынай. Цікава, каб пчолы праз увесь час галоўнага ўзятку не рабілі воску і ня трацілі часу, бо на выраб 1 фун. воску ідзе 8 фун. мёду. Таксама трэба аддзяліць гняздо ганеманавай краткай, каб матка не магла прайці для адкладваньня яечак па сотах. **П. Санько.**

---

# Менская станцыя абароны расьлін.

*Тав. агрономы!* Зараз адным з галоўных пытаньняў, якое мае вялікае экономічнае значэньне, зьяўляецца высьвятленьне становішча яравых пасеваў у адносінах пашкоджаньня іх кузуркамі і вызначэньне разьмераў іх пашырэньня.

Менская станцыя абароны расьлін вывучае гэта пытаньне і вы можаце дапамагчы ёй у працы падлічваньня пашкоджаньня кузуркамі пасеваў. Дзеля гэтай мэты бярэце спробы ярыны (ячменю) у вашым раёне. Гэта робіцца так: засевы раёну разьбіваюцца на вучасткі па глебавых асаблівасьцях і характару рэльефу мясцовасьці. На кожным з выдзеленых такім чынам вучасткаў трэба ўзяць 25—50 шт. расьлін, адрэзаць карэньні і высушыць, як у гербары, або палажыць у газэтную паперу па 10—12 шт. і падвесіць для сушкі.

Пробы расьлін з выдзеленых вучасткаў трэба браць па пэрыодам разьвіцьця: 1) у час зьяўленьня ўсходаў, 2) кушчэньня, 3) зьяўленьня трубак, 4) выплываньня, 5) красаваньня, 6) наліваньня (малочнай сьпеласьці) і 7) жніва. Для ўзятых проб пішуць пашпарт, дзе адзначаюць: 1) мясцовасьць, 2) глебу, 3) мікрорэльеф, 4) час, калі ўзята проба, 5) севазварот, 6) тэрмін пасеву, 7) пэрыод разьвіцьця, 8) спосаб пасеву (радковы ці ручны) і 9) выраб поля.

Станцыя спадзяецца, што грамадзкія работнікі пойдуць на дапамогу ў справе вырашэньня такіх важных пытаньняў, як барацьба са шкоднікамі с.-г. расьлін і просіць усе ўзятыя і высушаныя пробы прысылаць па адрасу: Менск, Інбелкульт, сэкцыя прыродазнаўства. Перасылка бясплатная. Райагрономы пасьля апрацоўкі прысланага поўнасьцю імі матар‘ялу могуць атрымаць вынікі пашкоджанасьці пасеваў іх раёну.

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Паляпшайце сваіх кароў.

Да 1914 году ў нас была значная колькасьць жывёлы. Імпэрыялістычная і грамадзянская вайна зьнішчылі нашу гаспадарку, а разам з тым і жывёлагадоўлю.

Што датычыць якасьці нашай жывёлы, дык тут селянін глядзіць, каб атрымаць больш гною і зусім не зварачвае ўвагі на якасьць жывёлы. Завадзкой жывёлы ў нас няма, каровы прыпускаюцца да простых быкоў, а ад гэтага і племя бывае благое.

Цяпер, калі ў нас ідзе ўзмацненьне сельскае гаспадаркі, неабходна зьвярнуць увагу і на палепшаньне скаціны, асабліва малочнае. Але якім чынам гэта зрабіць?

Раней думалі, што палепшыць нашу жывёлу можна толькі завадзкой, замежнай. З гэтым можна пагадзіцца, але пры ўмовах, калі 1) мець добры, цёплы і сьветлы скотны хлеў; 2) мець добры корм, догляд і ўтрыманьне; 3) умела падбіраць жывёлу і інш. У нас-жа аб гэтым ня думалі і замежную жывёлу трымалі ў такіх самых умовах, як і мясцовую. Ад гэтага яна хварэла, драбнела і нарэшце станавілася маладаходнай, як і наша. Так было ў большасьці нашых абшарнікаў, якія выпісвалі замежную жывёлу. Інакш справа стаяла там, дзе гаспадары зьвярталі ўвагу на палепшаньне корму і наогул утрыманьня скаціны. Там вынікі былі найлепшыя.

Праслаўская, гарбатаўская, домшынская, халмагорская і інш. жывёла дае вялікі ўдой і добрае малако. А гэтага дасяглі самі сяляне бяз траты сродкаў на замежную жывёлу.

Пры нашай беднасьці ў сучасны момант трэба паляпшаць нашу мясцовую скаціну. Гэтага можна дабіцца пры добрым доглядзе, кармленьні і правільным падборы. Вядома, што праз год нельга дасягнуць таго, каб наша карова давала 150—200 вёдзер і больш, але праз некалькі год гэтага дабіцца можна. Наша жывёла хутка адказвае на нязначнае палепшаньне; прыкладам гэтага можа быць паказальнае кармленьне, пры якім удой павялічваўся часамі на 50 проц. за 3 тыдні. З гэтага відаць, што наша карова можа паляпшацца і стаць добрай пародай.

Для гэтага трэба зрабіць спагадныя ўмовы. Шмат хто думаў раней, што для жывёлы не зьяўляецца абавязковым мець цёплае памяшчэньне, але гэта зусім няправільна. Усё жывое, у тым ліку і жывёла, ахаладжваецца, траціць частку свае цяплыні для падтрыманьня тэмпэратуры свайго цела; жывёла патрабуе больш корму. Адсюль відаць, што каб карова менш ела, трэба трымаць яе ў цёплым памяшчэньні. Апрача таго, у халодным хлеве карова дае менш малака. Зрабіць хлеў цёплым можна такім спосабам: усе шчыльні пазатыкаць пакульлем, а

не саломай, як гэта ў нас робіцца; столь замазаць глінай і наверх насыпаць слой пяску або апілак, асабліва, калі на гары хлеву хаваецца корм, каб ён не сьмярдзеў гноем; дзьверы зрабіць шчыльнымі, па магчымасьці ababіць іх старымі мяшкамі ці саломай. Для здароўя жывёлы неабходна, каб хлеў быў сьветлы, з сухім паветрам. Каб паветра ачышчалася, у хлеве трэба рабіць выцяжныя трубы з вяршковых дошак з перагародкаю ў сярэдзіне. Труба павінна выходзіць на 1 мэтр ($1^1/_2$ арш.) вышэй страхі, а ад столі ўніз на 6—8 вярш. Тады будзе цяга мацней. Велічыня трубы зьнізу робіцца ня менш 14 кв. вярш. з засаўкамі, якія можна рассоўваць, калі гэта патрэбна.

Вокны хлева павінны быць такімі, каб прапускалі патрэбную колькасьць сьвету, лепш пад стольлю, каб сьвет не турбаваў скаціны. Добра, калі вокны можна адчыняць; гэта ў цёплую пагоду будзе праветрываць хлеў.

Агрон. **Пашынін.**

---

# Гадоўля авечак.

Ягнят раяць адымаць ад маткі ў месячным узросьце. У час ад'ёму іх пускаюць пад матку радзей і пры гэтым падкармліваюць аўсянкай ці баўтушкай з ільнянае макухі. Цераз тыдзень пасьля ад'ёму ягнятам можна даваць дробнае сена. Трох ці чатырох месяцаў ягнят зусім адымаюць ад маткі. У гэты час ім даюць зярновы корм: драны ячмень і добра змолатую макуху.

Лепшы корм для ягнят—морква. Таксама ягняты добра ядуць бручку, турнэпс (кармовая рэпа), але ўсіх гэтых кармоў ня можна даваць ягнятам больш 2-х фун. у дзень. Дарослых авечак раіцца карміць 2 разы ў дзень. Калі часьцей карміць, то авечкі не паспяваюцьператравіць корм.

Толькі падсосных матак трэба карміць разы 4 у дзень. Паіць авечак таксама трэба 2 разы ў дзень—раніцой, як будзе зьедзена палова сена, і вечарам перад дачай корму на ноч. Паіць лепш часьцей і цёплай вадой. На паеньне авечак трэба зьвяртаць увагу, бо ад дрэннага паеньня авечкі часта хварэюць. Авечкам таксама патрэбна даваць соль. Калі ім не даваць солі, і калі яе мала ў корме, то авечкі хварэюць на „лізуху“—ліжуць ясьлі і інш. Ад недахопу солі авечкі пачынаюць грызьці шэрсьць адна ў другой. Солі ім патрэбна даваць ня менш 4 грам у дзень, а бараном даюць ад 8—12 грам.

Авечкам раяць пакідаць сена з высокіх сухадольных лугоў. Лясное дробнае сена таксама прыгодна для авечак. Але сена з нізкіх балоцістых сенажацяў авечкам даваць ня трэба: ад яго авечкі хварэюць. Калі авечак карміць адным сенам, то на адну галаву трэба ў суткі 5-6 фун.

Аўсяная і ячменная салома мала карысна; азімую салому лепш зьядаюць авечкі цэлымі снапамі: з яе авечкі выбіраюць траву і аб'ядаюць колас, а салома ідзе на подсьціл. Мякіну можна даваць запаранай (ячменную мякіну лепш зусім не даваць). Караньплоды таксама добры корм для авечак, але многа іх даваць ня трэба, бо тады авечкі пачынаюць хварэць праносам (можна даваць у суткі 5-6 фун караньплодаў). Калі авечкі ядуць караньплоды, то іх можна паіць адзін раз у дзень (раніцою). Караньплоды даюць авечкам дробна пасечаныя з

прымешкаю рэзкі, мукі альбо макухі. Бульба авечкам даецца толькі вараная. Яе можна даваць 2-3 фун. у суткі на галаву. Гнілую бульбу авечкам лепш не даваць. Калі можна высушыць зялёнае бацьвіньне бульбы, то гэтым сенам можна карміць авечак па 2-3 фун. у дзень. Завадзкім бараном у час злучкі вельмі карысна даваць авёс.

Самую сур'ёзную ўвагу трэба зьвяртаць на дравеснае сена. Загатаўляюць яго так: з дрэва рэжуць галіны ад 1—1½ арш., зьвязваюць іх у пучкі, як венікі, разьвешваюць у цяністым месцы дзеля прасушкі (на сонцы сушыць гэтыя венікі нельга). У добрую пагоду венікі высыхаюць за 2 тыдні. Далей іх складаюць на гары хаты ці ў пуні.

Пашай для авечак павінна быць сухое месца: на нізкіх мясцох авечкі пачынаюць хварэць і здыхаюць.

Нельга паіць авец з балот і канаў, заўсёды іх трэба паіць перад выганам на пашу і вечарам, калі яны прыдуць з поля. Нельга таксама выганяць іх у поле рана, пакуль не абсохне раса; у дажджлівыя дні лепей зусім не выганяць. На прыпёку сонца таксама нельга трымаць авечак, а трэба заганяць іх у кусты, бо авечкі баяцца гарачыні.

Селянін **С. Сялюкін.**

(Вёска Лехава, Віцебшчына).

---

# Сялянская гаспадарка павінна мець жывёлаводны ўхіл.

Да гэтага часу ў нас селянін трымае карову больш дзеля гною, хоць ён і ведае, што яго жывёла прыносіць адзін убытак.

Як-жа выйці з гэтага становішча, як палепшыць селяніну жывёлу, калі на гэтым шляху ёсьць шмат перашкод? Шмат якія вёскі знаходзяцца далёка ад вопытных станцый і культурных савецкіх гаспадарак, няма быкоў, няма боравоў і г. д. Цяпер паўстае пытаньне, якім-жа шляхам ісьці, каб мець селяніну добрую завадзкую скаціну, добрага вытворніка? Па мойму дзеля гэтага неабходна НКЗ дапамагаць сялянам купляць маладую добрую жывёлу (асабліва вытворнікаў) на вопытных станцыях, у культурных савецкіх гаспадарках цераз доўгатэрміновы крэдыт і г. д.

Далей магчыма праз Камітэты ўзаемадапамогі закупіць завадзкіх вытворнікаў і абслугоўваць сялянскае быдла на больш ільготных умовах.

Пытаньне аб хутчэйшым палепшаньні сялянскае жывёлы асабліва востра стаіць у сучасны момант, калі палявая гаспадарка пачала ўзмацняцца, а травасеў пашырацца. Тут неабходна выказаць сваю думку супрацоўнікам і чытачом час. „Плуг“.

Селянін **Міхась Тарасенка.**

(Бракава, Магілеўшчына).

---

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ.

## Хваробы на вым‘ю.

Вым‘я ў жывёлы досыць часта хварэе. У большасьці тая ці іншая хвароба на вым‘ю здараецца ў першыя тыдні альбо месяцы пасьля ацёлу, а ў некаторых выпадках прыключаецца нават і сьледам за ацёлам. Паміж гэтымі хваробамі найчасьцей здараюцца:

*Запаленьне ў вым‘ю.* Хвароба гэтая можа быць у кожнай саміцы, але часьцей яна здараецца ў кароў і ў авечак.

Запаленьне ў вым‘ю бывае альбо павярхоўнае, альбо глыбокае. Першае захоплівае толькі скуру на вым‘ю і падскурныя яго часткі, а глыбокае запаленьне ідзе далёка ў глыб па вым‘ю і захоплівае глыбокія яго часткі.

*Прычына.* Як тое, гэтак і другое запаленьне выклікаецца праз заразу (мікробы). Зараза можа папасьці ў вым‘я альбо праз скуру, асабліва калі на ёй ёсьць якія колечы ранкі ці скрабіны, альбо праз сасок ці малако, альбо заносіцца ў вым‘я з сярэдзіны жывёлы праз яе кроў. Вось чаму запаленьне ў вым‘ю найчасьцей здараецца ў кароў, якія стаяць у брудных хлявох на мокрай і гнілой подсьцілцы. Не малую ролю ў гэтым заражэньні адыгрываюць і брудныя рукі доек, якія часта не памыўшы рук бяруцца даіць карову.

*Адзнакі.* Пры павярхоўным запаленьні спачатку адна ці разам дзьве заднія чвэрці ў вым‘ю робяцца гарачыя, скура на іх крыху чырванее і захварэўшыя часткі апухаюць, пры датыканьні да іх карова адчувае боль і нават пры ходзе накульгвае; на скуры праз некалькі дзён зьяўляюцца вадзянічкі, якія потым трэскаюцца і засыхаюць у струпчыкі. Агульны стан здароўя каровы пры гэтым не зьмяняецца і карова аддае малако нормальна; вопух-жа хутка зыходзіць.

Пры глыбокім запаленьні хвароба часьцей за ўсё захоплівае адну чвэрць, зрэдка дзьве чвэрці ў вым‘ю. Чым далей, тым вопух больш павялічваецца; хворая частка вым‘я робіцца балючаю, цьвёрдаю і гузаватаю. Скура над запаленым месцам грубее і карова пры выдойваньні адчувае боль, брыкаецца і не даецца даіць. Адразу малако амаль што ня зьменьваецца і на вока нічым не адрозьніваецца ад здаровага, толькі пры гатаваньні адкіпае. Але далей яно пачынае зьменьвацца ў самым вым‘ю, робіцца як тварог, затрымліваецца ў вым‘ю і выдойваецца з саскоў па кроплях; пазьней замест малака з саскоў пачынае выдойвацца шэра-брудная, а часамі і з крывёю, крыху сьмярдзючая жыжка (сыроватка). Карова адчувае сябе зусім хвораю, нехаця бярэцца за корм, траціць жваку, больш ляжыць і пры ходзе кульгае на заднюю нагу з хворага боку; нос у яе робіцца сухі і гарачы, тэмпэратура павышаецца да 40 градусаў.

У авечак часамі трапляецца асаблівая форма глыбокага запаленьня ў вым‘ю, якая пераходзіць у гангрэну, ад чаго авечкі хутка і вельмі часта прападаюць.

*Лячэньне* абавязкова трэба пачынаць як найхутчэй. Захварэўшай карове неабходна адразу даць 1—1½ фун. глаўбэрскай солі і, як мага часьцей (ня менш, як 4—5 разоў на дзень), здойваць малако з захварэўшага саска ў якую-небудзь чаропку, выліваючы надоенае за хлевам, каб не заражать подсьціл. Корм, і асабліва пойла і ваду, належыць зьменшыць на палавіну, каб ня было напору малака; наогул корм павінен быць лёгкі.Спачатку хваробы карысна ўціраць ў вым'я (разьмінаючы яго) камфорную мазь ці камфорнае масла раз на дзень і падвязаць вым'я, каб яно не адвісала. Пасьля кожнага здойваньня патрэбна абмыць вым'я цеплаватым 2 проц. расчынам борнага квасу і насуха выцерці яго, а таксама ўпрыснуць ў сасок таго-ж 2 проц. борнага квасу і выдаіць. Пры зацьвярдзеньні вым'я, карысна памазаць хворае месца настойкаю іоду, зьмяшаўшы яе напалавіну са сьпірытусам альбо ўцерці мазь з іодам, а таксама класьці на вым'я прыпаркі з сеннай пацярухі ці ільнянага семя.

Дзеля таго, што вым'я лягчэй можа захварэць падчас самога ацёлу ці ў першыя дні пасьля яго, то патрэбна заўсёды загадзя падбаць аб чыстай і сухой подсьцілцы і браццa даіць карову кожны раз добра падмыўшы і высушыўшы вым'я, а таксама памыўшы рукі. Трэба памятаць, што заразу можна лёгка перанесьці, як на здаровыя яшчэ саскі, гэтак і на іншых кароў і дзеля таго вельмі добра, калі хворую карову будзе даіць асобны чалавек.

*Ацёк вымені* часта здараецца ў кароў і ў кабыл у апошнія перад родамі дні, а часамі і пасьля родаў і часамі трывожыць гаспадара. Заднія чвэрці, альбо і ўсё вым'я набракае і нізка абвісае, так што жывёла стаіць растапырыўшыся. Малако ў яе адыходзіць памалу і калі націснуць на вым'я пальцам, то на месцы пальца пазастаецца ямка. Агульны стан здароўя пры гэтым ня зьменены, яна чуе сябе добра і толькі зрэдка адчувае боль. Найчасьцей вым'я досыць значна ацякае ў добрых малочных кароў. Але гэткі ацёк праз некалькі дзён сам сабою праходзіць. Толькі пры надмерным павялічэньні вым'я патрэбна бывае дапамога.

*Лячэньне.* Пры вялікіх вопухах карысна бывае ўцерці, добра разьмінаючы вым'я, вазэліну ці сьвежага сала альбо борнай мазі. Часамі, каб паменшыць ацёк, карысна пачаць за некалькі дзён да родаў здойваць жывёлу, нават калі малака яна аддаваць будзе і нямнога. Занадта адвіслае вым'я карысна падвязаць, а корм і пойла паменшыць, і час ад часу даваць карове па ½—1 фун. глаўбэрскай солі. Пасьля ацёлу такую жывёлу патрэбна здойваць ня менш 6 разоў на дзень, альбо пакінуць цяля пад маткаю.

У пяршачак, пры першых родах здараецца, што пасьля родаў малака зусім ня бывае. Ня гледзячы на тое, што роды ў іх адбываюцца своечасна, вым'я ў іх застаецца маленькім і без малака, з саска ледзь выціскаецца некалькі кропель жаўтавата-белаватай жыжкі. Ня варта адразу лічыць, што ў такое жывёлы малака ўжо і ня будзе. Досыць часта здараецца, што малако ад розных прычын спачатку затрымоўваецца, і праз дзень-другі яно ўсё-ж знаходзіцца. Патрэбна толькі даць добрага цёплага пойла і корму, часта здойваць, нават калі з саскоў і не паказваецца малако і часьцей разьмінаць вым'я. Заўважана, што ў старэйшых жывёл такое зьявішча трапляецца пасьля кароткага сухастою, калі іх дояць да апошняга моманту. Гэткай жывёле карысна даваць кроп, аніс і кмен.

*Затрыманьне малака*, альбо паменшаньне яго і поўная страта часта бывае адзнакаю пачатку якой-небудзь хваробы, якую трэба высьветліць і лячыць, а вым'я расьціраць і здойваць, як сказана вышэй.

*Раны і трэшчыны на сасках* сустракаюцца досыць часта, як ў кароў, так і ў іншай жывёлы. Даіць гэтых кароў нявыгадна, яны стаяць неспакойна. Часта гэта бывае ад неасьцярожнай і неўважлівай дойкі, асабліва пры сухой скуры альбо часамі і цяля зубамі параніць сасок, але найчасьцей ад бруднае подсьцілкі, а ўлетку на пашы, калі далікатная скурка на сасках ад ветру сонца перасыхае і колецца. Уздоўж саскоў спачатку зьяўляюцца мала прыметныя павярхоўныя трэшчыны, якія баляць і вельмі не пакояць карову. Калі не гаіць, альбо няправільна лячыць іх, то гэткія трэшчынкі павялічваюцца ад штодзённай дойкі удоўжкі і ўглыб і часамі могуць выклікаць павярхоўнае запаленьне ў самым вым'ю.

*Лячэньне.* Ранкі і скрабінкі на вым'ю неабходна трымаць у чыстаце і перад тым, як даіць карову, належыць змазваць хворыя саскі борным гліцарынам альбо цынкаваю мазьзю (калі мокрыя); альбо зьмешваюць 0,2 кокаіна, 30,0 вапнянае вады і 20,0 праванскага масла. Гэтым саставам змазваюць саскі перад даеньнем.

Каб папярэдзіць трэшчыны на саскох, вельмі карысна кожны дзень перад даеньнем змазваць саскі белым вазэлінам, а не мачыць іх малаком.

*Бародаўкі* на саскох і на вым'ю таксама часта трапляюцца ў кароў і вельмі перашкаджаюць даіць і асабліва, калі іх многа.

*Лячэньне.* Сухія бародаўкі і мяккія, якія сядзяць на ножцы, перавязваюцца альбо адкручваюцца; перавязаўшы ножку, пакідаюць перавязку аж пакуль бародаўка не адваліцца. Паасобныя бародаўкі, якія сядзяць шырока ў скуры, можна прыпальваць азотнаю кісласьцю, робячы гэта так, каб не папасьці на здаровую скуру; альбо яшчэ раяць змазваць сокам з малачаю. Калі ёсьць вялікая патрэба прыпякаць бародаўкі, альбо наогул зьнішчаць іх, то лепш гэта зрабіць у сухастою, калі каровы ня дояцца.

Каровы, якія маюць бародаўкі, павінны даіцца апошнімі. Пасьля даеньня належыць вымываць рукі вадою з мылам.

**Ів. Серада.**

(Горкі, с-г. Акадэмія).

---




## Як працуе с.-г. гурток вёскі Хватаўкі.

*(Бялыніцкі раён, Магілеўшчына).*

**Сельска-гаспадарчы гурток в. Хватаўкі яшчэ малады, але шмат што зрабіў кожны селянін дзякуючы гуртку. Праца гуртка апісана па просьбе сялян—сяброў гуртка.**

Вёска Хватаўка знаходзіцца ў 5 вяр. ад мяст. Эсьмоны. Глеба вёскі пескавая і не ўся скарыстоўваецца, як пахаць. Усяе зямлі 120 дзес., але добрай знойдзецца 30-40 дзес., а рэшта пустуе (пасьля гадовага карыстаньня кідаецца на 10-15 г. у аблогу). Цяпер жа сяляне пазнаёміліся з лубінам і думаюць гэту пусташ скарыстаць. 100 дзес. пескавой зямлі ў мінулым годзе сяляне передалі ў лясны фонд, а замест яе атрымаюць лепшай у другім месцы.

Да сваіх надзелаў сяляне в. в. Хватаўкі, Пупса і Карманаўка з даўных часаў арандавалі яшчэ зямлю ў маёнтку „Пупса", а цяпер гэту зямлю яны атрымалі ў прырэзку.

Хватаўка мае школу, дзе вучыцца 50 дзяцей. Вось у гэтай вёсцы 8 лістапада і залажыўся с-г. гурток.

*Гурток аб'яднае 22 чалавекі з дарослага сялянства* (амаль ня ўсе гаспадары лічацца сябрамі гуртка). У працы гурток зьвязаны з агрономам і Бялыніцкай школай сялянскай моладзі, якая вылучыла туды для працы сваіх вучняў. Гурток мае праграму працы.

Шчыры ўдзел у працы гуртка прымае настаўніца Крутас. Занятк і гуртка адбываюцца кожны тыдзень па нядзелях і сьвяточных днях. На заняткі ходзяць акуратна. Гурткоўцы абралі свайго старшыню і сэкратара, якія вядуць і кіруюць працаю гуртка. Амаль што ўсе сябры ўмеюць чытаць і прачытваюць пры гуртку літаратуру, а каб кнігі былі, дык яны ўносяць кожны месяц па 10 кап. На гэтыя сродкі выпісваюць кнігі, газэты („Беларускую Вёску") і часопісі „Сам сабе агроном" і «Плуг". Чытаюць бібліотэчкі-перасоўкі.

Распрацоўка матар'ялу праводзіцца самімі сябрамі, пасьля прачытаньня тае ці іншае тэмы. Напрыклад, дзядзька Янка (47 г.) кажа: „Трэба сёньне не падкачаць, бо мне даручылі даклад аб палепшаньні сенажаці". Пасьля дакладу даюцца пытаньні (вядома, настаўніца дапамагае растлумачваць іх).

Сяляне любяць свой гурток, завуць яго „кружэлкай". Шмат з таго, аб чым бывае гутарка ў гуртку, сяляне практычна праводзяць у сваіх гаспадарках. Напрыклад: а) усе ацяплілі хлявы хатнімі сродкамі; б) зрабілі дацкія кармушкі (Мацюшэўскі К., Мацюшэўскі Ів.); в) усе зрабілі кармушкі для авечак (вельмі хваляць іх); г) купілі агульную сячкарню і карыстаюцца ўсе; д) зьбіраюць попел для сенажаці; е) адвялі

кавалак зямлі (1/8 дзес.) пад вопытны вучастак, палажылі туды 24 вазы гною і ўзаралі на зіму, а вясною зьбіраюцца пасеяць кармовыя буракі, люцэрну і інш.; ж) ачысьцілі насеньне на трыеры; з) некаторыя залажылі выхавальнікі пладовых дрэў; і) павялічылі пасеў сэрадэлі і канюшыны.

На далейшы час сяляне ўжо абмеркавалі купіць завадзкога бугая і кнораза і організаваць мэліорацыйнае таварыства для асушкі балота.

Жанчыны хочуць купіць „тэкстылку“, на што паданы запрос у Маскву (адказ яшчэ не атрыманы).

Наогул праца гуртка здаровая і цікавіць сялян, якія прымаюць у працы гарачы ўдзел. „Калі ў нас ня будзе „кружэлак“, то мы жыць ня будзем“. „Кожная вёска павінна мець сваю „кружэлку“—так кажуць старыя сябры Хватаўскага с-г. гуртка [1]). **І. Туркін.**

## Рудняncкія двухтыднёвыя с.-г. курсы.

*(Межанскі раён, Віцебшчына).*

**Адны курсы ўскалыхнулі цэлы раён сялян. Сяляне жадаюць, каб курсы былі больш двух тыдняў.**

Мястэчка Рудня знаходзіцца ў 10 вяр. ад Межы—цэнтру раёну і ў 25 вярст. ад чыгуначнае станцыі Азярышча. Вось у гэтым мястэчку агрономы і правялі двухтыднёвыя с-г. курсы. Агрономаў было чатыры—Малахаў, Лук'янаў, Котаў і Сьвідэрскі. Лекцыі праводзіліся штодня, акрамя панядзелка, ад 6 да 10 гадз. вечара. Бывалі выпадкі, калі лекцыі зацягваліся да 2-3 гадз. ночы.

Было організавана паказальнае кармленьне дзьвёх кароў, якіх карміліі самі слухачы курсаў па чарзе. Карміліся каровы канюшынай, сенам, саломай, буракамі макухай і за ўвесь час кармленьня павялічылі ўдоі малака ў $2^1/_2$ разы. Да гэтага часу адна карова давала 8 фунт. малака, а пасьля кармленьня стала даваць $19^3/_4$ фунт.; другая карова давала 11 фунт., а стала даваць 28. Кармушкі былі дацкія.

Пастаянных слухачоў было 42 чал., акрамя іх яшчэ прыходзіла пастароньніх па 20-70 асоб. З курсантаў быў абраны старшыня курсаў, які наглядаў за акуратным прыходам на курсы слухачоў, прызначаў дзяжурных карміць і даглядаць кароў і г. д. Па нядзелях курсы праводзіліся днём. У гэты дзень сяляне прыходзілі ў сельсавет і на курсы іх зьбіралася яшчэ больш.

Усе лекцыі чыталіся са сьветавым ліхтаром, дзе сяляне бачылі добрыя пароды коняй, кароў, сьвіней, авечак і інш., а таксама кармовыя травы і сарнякі.

Гэтыя с-г. курсы ўскалыхнулі сялян вёсак Лёхава, Тарасава, Янава і інш. Шмат сялян падалі заявы аб пераходзе на шматпольле, шмат сялян узяліся майстраваць дацкія кармушкі, а калі ў сельсавет прывезьлі трыер і трашчотку, дык ад сялян ня было адбою:—усе хацелі ачысьціць сваё насеньне. Таксама шмат сялян падалі заявы, каб стаць членамі с-г. коопэрацыі і дастаць насеньня лубіну, канюшыны і інш. кармовых траў.

Так ускалыхнулі наш раён курсы і агрономы. Пажадана, каб такія курсы праводзіліся больш 2-х тыдняў. Селянін **С. Сялюкні.**

---

[1]) Пасылаю гэты артыкул рэдакцыі „Плуг“ па просьбе сялян—сяброў Хватаўскага с-г. гуртка. На занятках гэтага гуртка ім чыталі часопіс „Плуг“, якая сялянам вельмі спадабалася (І. Т.).

# Аб Рагайлаўскіх двухтыднёвых с.-г. курсах.

У Рагайлаўскай школе, у 3-х вярст. ад Мсьціслаўля былі арганізаваны с.-г. курсы. Навакол Рагайлаўшчыны, дзе знаходзіцца с.-г. арцель „Вольны Парабак“, раскіданы вёскі Літвінка, Гаранка, Будагошчынскія хутары, пасёлкі і вёска Сьлюнькаўшчына (ад школы ў $1^1/_2$ вярсты).

Для сялян гэтых вёсак, рабочых і парабкоў саўхозу Лютня-Бобрыкі і былі арганізаваны гэтыя курсы з ухілам жывёлагадоўлі.

На курсы запісалася 72 асобы. Паказальнае кармленьне было праведзена з 2-ма каровамі, якія павялічылі ўдоі на 100 проц. Прыходзіла на курсы ад 40 да 100 чал. Лекцыі чыталіся штодня ад 5 да 9 гадзіны вечара (за выключэньнем нядзелі) з 15 сьнежня 1925 г. да 1 студзеня 1926 г. Абставіны для гэтых курсаў былі больш спагадныя, чым у Парадзіне. Памяшканьне апальвалася і было досыць прасторнае. Усім лекцыям дапамагаў сьветавы ліхтар.

На курсах прымалі ўдзел райаграном Хатулёў, заатэхнік-Туркан-Сурыновіч, вэтэрынар Траяноўскі, аграномы саўхозу Лютня-Бобрыкі Калер і Елянёў і помаграномa Пісараў.

Пасьля зачыненьня курсаў быў з'арганізаваны с.-г. гурток з 14 чалавек і арганізавана машыннае таварыства з 16 чал. сялян, якое мае на мэце купіць трактар.

Агроном **Калер**.

---

# У якім парадку праводзіцца надзяленьне зямлёю.

У мінулым годзе зямельнымі органамі быў выяўлены разьмер зямельнага фонду, з якога можна было-б надзяліць зямлёю беззямельных і малазямельных грамадзян. Пасьля вучоту быў складзены фонд у 595 тыс. дзес. (275 т. дзес. з быўшых лясных зямель, 170 т. дзес. з абрэзак вялікіх гаспадарак, 100 т. дзес. вылучана з дзяржаўнай зямельнай маемасьці і 50 т. дзес. іншых зямель).

З гэтае колькасьці тады-ж разьмеркавана насельніцтву 90 т. дзес. На разьмеркаванай зямлі пабудована 44 пасёлкі (29.872 дзес.) нарэзана 1391 хутар (9554 дзес.), адведзена 29 с.-х. колектывам 2.916 дзес., дадзена зямельным аб'яднаньням у прырэзку 36,618 дзес., паасобным гаспадаркам 10.573 дзес., таварыствам 156 дзес. Рэшта зямлі адведзена пад вучасткі агульнага карыстаньня.

У гэтым годзе таксама будзе яшчэ разьмеркаваньне запаснага фонду зямельнымі органамі.

Чарга, норма надзяленьня і парадак разьмеркаваньня зямлі сярод грамадзян розьняцца ў залежнасьці ад таго, ці ўваходзіць гэта зямля ў склад дзяржаўнага або мясцовага фонду.

Калі запасная зямля не замацавана за зямельным аб'яднаньнем, то яна разьмяркоўваецца з захаваньнем такой чаргі:

а) двары, у складзе якіх маюцца на службе чырвонаармейцы і самі чырвонаарейцы на працягу году ад дня звальненьня ад вайсковае службы, калі маюць самастойную гаспадарку;

б) с.-г. колектывы;

в) беззямельнае земляробскае насельніцтва, у тым ліку с.-г. рабочыя.

г) малазямельныя грамадзяне данага раёну;

д) мясцовыя працоўныя яўрэі, калі яны не ўваходзяць у раней пералічаныя катэгорыі;

е) прышлае беззямельнае земляробскае насельніцтва, у тым ліку парабкі;

ж) яўрэі, якія належаць да складу непрацоўнага элемэнту і хочуць заняцца сельскай гаспадаркай;

з) усе іншыя грамадзяне, якія хадайнічаюць аб надзяленьні іх зямлёю.

*Зямля мясцовага фонду*, як і дзяржаўнага, знаходзіцца ў распараджэньні зямельных органаў, але дзякуючы таму, што гэта зямля замацавана за азначаным зямельным аб'яднаньнем, надзяляцца ёю могуць толькі малазямельныя члены данага аб'яднаньня. Беззямельныя грамадзяне ў склад зямельнага аб'яднаньня не ўваходзяць.

З мясцовага запаснага фонду надзяляюцца зямлёю перш двары, якія закладаюць с.-г. колектыў, а потым іншыя малазямельныя гаспадаркі. Таксама разьмяркоўваецца тая частка дзяржаўнага запаснага фонду, якая адведзена ў прырэзку існуючаму зямельнаму аб'яднаньню.

У межах кожнай чаргі многасямейныя двары надзяляюцца зямлёю раней другіх. Норма надзяленьня залежыць ад разьмераў запаснага фонду, ліку асоб, якія хадайнічаюць аб надзяленьні іх зямлёю і ад таго, ці зьяўляецца ў іх вядзеньне сельскай гаспадаркі асноўным ці падсобным заняткам.

Перад разьмеркаваньнем дзяржаўнага фонду ўстанаўляецца чарга надзяленьня. Раней надзяляюцца гаспадаркі першай катэгорыі па найменшай норме, ня гледзячы на лік у іх працоўных членаў сям'і. Пасьля таго, як кожны двор першай катэгорыі атрымае палавіну найбольшай нормы, паступова надзяляюцца зямлёю ў тым-жа парадку кандыдаты другой катэгорыі, потым трэцяй і г. д. Толькі пасьля надзяленьня ўсіх катэгорый па найменшай норме з падлікам працоўных адзінак, можа быць данадзяленьне іх па найбольшай норме.

Саматужнікі, рамесьнікі, рамізьнікі і дробныя гандляры, для якіх сельская гаспадарка зьяўляецца падсобным заняткам, надзяляюцца па іх хадайніцтву толькі сялібнай зямлёю.

Пры разьмеркаваньні мясцовага запаснога фонду сярод малазямельных грамадзян данага аб'яднаньня, калі зямлі хапае, то іх надзяляюць па найбольшай норме. У іншых выпадках у межах кожнай катэгорыі яны атрымоўваюць перш найменшую норму, ня гледзячы на лік у двары працоўных адзінак, а з астачы фонду данадзяляюць іх да палавіны найбольшай нормы.

Разьмеркаваньне дзяржаўнага запаснага фонду праводзіцца каморнікам-земляўпарадкаваццелем з захаваньнем агульнага парадку правядзеньня спраў па земляўпарадкаваньню. У гэтым выпадку кожная справа перш разглядаецца зямельнымі камісіямі, а затым спаўняецца і зацьвярджаецца тымі-ж камісіямі.

У такім-жа парадку праводзіцца абрэзка вялікіх гаспадарак, якія ўваходзяць у склад зямельнага аб'яднаньня і зямля, якая атрымаецца пасьля абрэзкі, разьмяркоўваецца сярод малазямельных грамадзян таго-ж аб'яднаньня.

**Яўг. Вішнеўскі.**




# Лясы мясцовага значэньня і правільнае іх скарыстаньне.

**Лясы трэба скарыстоўваць па гаспадарскі. У лесе можна пасьвіць скаціну, жаць траву, зьбіраць ягады, грыбы, гарэхі, але заўсёды памятаць аб належных правілах.**

Развіцьцё сялянскае гаспадаркі на Беларусі бяз лесу немагчыма. Лес зьяўляецца для селяніна крыніцаю апалу і патрэбных у яго гаспадарцы матар'ялаў. Таксама па лясох селянін пасе жывёлу, косіць траву, зьбірае грыбы, ягады, подсьціл; палюе на зьвяроў і птушак, здабывае камень, пясок, гліну і г. д.

Рабоча-сялянская ўлада, ведаючы ранейшае цяжкае становішча сялянства адносна карыстаньня лесам і жадаючы ўтварыць для працоўнага сялянства найлепшыя варункі ў гэтым напрамку, вылучыла сялянству лясы мясцовага значэньня. Такім чынам, атрымаўшы лясныя вучасткі, сяляне могуць зьберагчы грашовыя сродкі, якія будуць скарыстоўваць на палепшаньне свае гаспадаркі. Адначасна сялянства паўней можа здаволіць свае патрэбы ў драўніне і мець выгаду ад збіраньня грыбоў, ягад, кашэньня сенажацяй і інш. Атрыманьне дазволу на бясплатнае карыстаньне лесам таксама спаўняецца лёгка і хутка, без асаблівых зацяжак і фармальнасьцяй.

У Беларусі вылучана да 1 студзеня 1926 г. 424.745 дзес. лясоў мясцовага значэньня, з якіх 375.985 дзес. перададзены сялянскім таварыствам, а рэшта комунам, саўхозам, коопэратывам і інш. аб'яднаньням.

Кожнаму селяніну зразумела, што гэта вялікая плошча лясоў павінна быць скарыстана па гаспадарскі, каб вынікам перадачы сялянам лясоў мясцовага значэньня ня было канчатковае зьнішчэньне іх. А дзеля гэтага ў лесе трэба весьці правільную гаспадарку, каб ён даў найбольш карысьці і каб разам з тым карыстаньне лесам не пярэчыла сталаму і бязупыннаму яго аднаўленьню. Вядома, што організаваць правільную гаспадарку ў лясох мясцовага значэньня Беларусі магчыма не адразу, а праз некалькі год. Але ўжо і цяпер трэба паставіць лясную гаспадарку так, каб ня было вынікаў, якія давялі-б да зьнішчэньня лясоў.

Таксама патрэбна праводзіць кампанію сярод жыхарства з мэтаю высьвятленьня ролі лясоў і іх значэньня для чалавека. Вельмі патрэбна, каб самі лесакарыстацелі організавалі ахову лясоў мясцовага значэньня з прыняцьцем належных проціпажарных мер у небясьпечны ад пажару час і мер па барацьбе са шкоднікамі лесу: трымаць у парадку межы лясных дач; сячы лес згодна ўстаноўленых правіл і праводзіць штучнае аблясеньне ў выпадку, калі натуральным шляхам лес не аднаўляецца.

У патрэбных выпадках, каб не парушыць ляснога кодэксу і распараджэньняў па лясной гаспадарцы, лесакарыстацелі павінны зьвяртацца да лясьнічага за тлумачэньнямі і спраўкамі.

Сельсаветы павінны завесьці кнігі па справаздачах у гаспадарцы лясоў мясцовага значэньня: 1) кнігу раздачы драўніны, 2) кнігу аб лясных парушэньнях, 3) кнігу прыгавораў па пытаньнях аховы і карыстаньня лесам і 4) кнігу прыходу і расходу грашовых сум. Азначаныя кнігі дадуць магчымасьць органам, якія контролююць дзейнасьць сельсаветаў па гаспадарцы ў лясох мясцовага значэньня, праверыць, наколькі яна адпавядае інтарэсам лесакарыстацеляў з аднаго боку і лясной гаспадарцы—з другога.

Раздача дроў і лесаматар'ялаў на гаспадарчыя патрэбы праводзіцца ў межах нормы патрэбы насельніцтва ў драўніне, па разьмеркаваньню сельскага сходу. Нормы апрацоўваюцца ў залежнасьці ад лясістасьці раёну і кліматычных варункаў. Вядома, што калі колькасьць драўніны, якую штогодна можна адпускаць з лясоў мясцовага значэньня, не задавальняе поўнасьцю патрэб насельніцтва, тады недахоп да нормы даецца сялянам з лясоў агульна дзяржаўнага значэньня, на агульных умовах.

Паша скаціны ў лясох мясцовага значэньня дазваляецца пры наступных умовах: каб скаціна ня пасьвілася на неаблесеных лесасеках, палянах і прагалінах, якія прызначаны пад лес; ня пасьвіць скаціны на мясцох з пульхнаю пескавою глебаю, ня кажучы ўжо пра мясцовасьці з лятучымі пяскамі, а таксама па маладнякох да тае пары, пакуль яны не падрастуць нагэтулькі, што скаціна ня здолее даставаць іх галінкі і зьядаць. Сьвіней і коз у лясы мясцовага значэньня ні ў якім разе ня пушчаць. Травою карыстацца можна толькі пры ўмовах зразаньня яе сярпом ці зрываньня рукою. Пакос і іншыя віды карыстаньня дазваляюцца толькі без псаваньня дрэў і з захаваньнем належных правіл і палажэньняў.

Для аховы лясоў мясцовага значэньня ад пажараў павінны быць прыняты папярэджваючыя меры, галоўным чынам прыборка валежніку і сухастою, ачыстка дзялянак раньняю вясною ад сучча, верхавін, шчэпак і іншага матар'ялу; павінна быць забаронена раскладаць агонь, а таксама пашырыць лясныя дарогі да 5 сажн. у шырыню.

Як толькі зьявяцца лясныя шкоднікі, лесакарыстацелі павінны зараз-жа зьвярнуцца да лясьнічага за парадаю аб мерах барацьбы. Усе спосабы догляду таксама паказваюцца лясьнічым.

Пры правільнай організацыі гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, пры сьвядомых адносінах да іх саміх сялян, лясы мясцовага значэньня Беларусі ўзьнімуць дабрабыт сялянскае гаспадаркі і тым самым замацуюць экономічны стан рэспублікі.

Б. Ліпкін.

---

# Вярба і карысьць ад яе.

**Найлепш аблясіць пусташы і пяскі вярбою. Яна дае дубцы на кашы і кошыкі, кару для вырабу скур, а драўніну на дугі, мэблю і дровы.**

Сялянская гаспадарка мае шчыльную сувязь з лесам, бо бяз лесу яна ня можа правільна разьвівацца. Зараз сяляне карыстаюцца лясамі

мясцовага значэньня. Вось чаму цяпер і будзе ў час пагутарыць аб тым, як павясьці гаспадарку ў гэтых лясох, якім парадкам аднаўляць лес і г. д.

Я раіў-бы селяніну зьвярнуць увагу на вядомую вярбу, якая ў нас пакуль што не ў вялікай пашане. Яна можа даваць карысьць кожнай сваёй часткай. Шмат якое ўжываньне маюць дубцы вярбы. Яны ідуць на розныя пляценьні, пачынаючы з кашоў і канчаючы даволі дарагімі рэчамі хатняга ўжываньня. Назаву некаторыя з іх, як кашы для ўпакоўкі багажу: яны лёгкія і моцныя. Затым ідуць кошыкі лягчэйшага багажу, кошыкі для бялізны, хлеба, варыва, кветак, або плеценая мэбля, дзіцячыя калыскі і г. д.

Драўніна вярбы мяккая, лёгкая і можа ўжывацца на розныя гаспадарчыя патрэбы, *пасуду*, чаўнакі, а таксама і на апал. Для пабудаваньня сырых паграбоў раяць браць вярбовы матар'ял, бо ён доўга ня трухлее.

У стэпавай паласе, дзе мала лесу, з вярбы будуюць ня толькі гаспадарчы будынак, але і самыя хаты. Там сустракаюцца цэлыя вёскі, якія пабудаваны з вярбы. Вугаль з вярбы ідзе на выраб пораху і алоўкаў для рысаваньня. Гарбары ставяць вышэй вярбовую кару пры вырабу скуры. Вярбовая кара надае тонкаму скураному тавару мяккасьць. Таксама і скуры на падашву лепш вырабляюцца пры дубленьні гэтай карой.

Апрача таго, вярбовая кара дае featureзнастайныя фарбы. Кара так званай белай вярбы ўжываецца для афарбоўкі шоўку, шэрсьці і лайкавай скуры ў чырвонавата-цынамонавы колер. Кара вярбы разам з карою вольхі ўжываецца для афарбоўкі ільнянай пражы ў чорны колер і г. д.

Цьвет вярбы мае шмат мёду. Пачынае красаваць яна вельмі рана вясною, калі вышаўшыя з зімы пчолы патрабуюць найбольш корму.

Расьце вярба на такіх глебах, дзе ніводнае дрэва расьці ня можа. Вярба добра для замацаваньня сыпучых пяскоў, берагоў рэчак, равоў і інш. Трэба адзначыць, што вучонымі налічваецца больш 800 сартоў вярбы. Шмат сартоў сустракаецца і ў нас на Беларусі, але цікавіць нас могуць толькі такія, як *казіная вярба* на кару (расьце кустамі па канавах і каля дарог, з мясістым лісьцем); *звычайная* ці белая вярба; *канапляная вярба ці ракіта* на кашы; нарэшце на дугі ідзе *вярбалоз* ці *дрэвавідная вярба.*

М. Ш.

(Канец будзе).

# С.-Г. ХРОНІКА.

*Пашырэньне насеньня кармовых траў.* У зьвязку з пераходам сялянскіх гаспадарак на шматпольле вясною г. г. сяляне купляюць насеньне траў у значна большай меры; асаблівы попыт мае насеньне канюшыны. К пасеўнай кампаніі было загатавана каля 14.000 пуд. насеньня канюшыны і разьмеркавана па акругах. На 1 травеня ў некаторых акругах уся канюшына была раскуплена (Аршанская акруга). Таксама ў значнай меры сяляне купляюць насеньне выкі і сэрадэлі. Далей паказваецца табліца расходу рознага насеньня па акругах за 2 тыдні (з 1 па 15 красавіка).

| НАСЕНЬНЕ | Бабруйск. на 21/IV кгр | Мазырск. на 15/IV кгр. | Магіл. на 12/IV кгр. | Аршанск. на 15/IV кгр. | Слуцк. на 15/IV пуд. | Віцеб. на 11/IV кгр. | Калінін. на 1/IV пуд. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Канюшына . . | 2795 | 3356 | 1613 | 3461 | 260 | 5139 | 511 |
| Цімафейка . . | 195 | 900 | 122 | 237 | 37 | 2275 | 45 |
| Выка . . . | 17508 | 4758 | 16179 | 1130 | 15 | 501 | 518 |
| Сэрадэля . . | 2381 | 3356 | 318 | 1530 | 105 | 223 | 269 |
| Лубін . . . | 2001 | 10901 | — | 1898 | 1923 | 6872 | 620 |
| Лён-даўгунец . | 2460 | 8000 | 110 | — | 912 | — | — |

*Гадоўля свайго насеньня канюшыны.* К вясьне бягучага году на сялянскім рынку было закуплена каля 2000 пуд. насеньня канюшыны (галоўным чынам Слуцкая і Віцебская акругі). З тэй-жа прычыны ў Слуцкай акрузе сяляне зусім мала купляюць насеньня канюшыны ў дзяржаўных складах, бо амаль кожны гаспадар мае ўжо сваё насеньне.

*Мінэральныя ўгнаеньні.* Найбольшы попыт з мінэральных угнаеньняў сярод сялян мае супэрфосфат, тамасаўка, калійная соль і касьцяная мука. Фосфарытнае мукі ў гэтым годзе амаль зусім няма ў продажы. Далей паказваецца табліца пашырэньня мінэральных угнаеньняў на працягу 2-х тыдняў (1—15 красавіка).

| УГНАЕНЬНІ | Бабруйск. 21/IV кгр. | Мазырск. 15/IV кгр. | Магіл. 15/IV кгр. | Аршанск. 15/IV кгр. | Слуцк. 15/IV пуд. | Віцеб. 21/IV кгр. | Калінін. 1/V пуд. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Супэрфосфат . | 3413 | — | 2055 | — | 3214 | 15000 | 784 |
| Тамасаўка . . | 4897 | 8192 | 9500 | — | 166 | 238 | 8586 |
| Чылійск. салетра | 594 | — | — | — | — | — | — |
| Калійн. соль . . | 2423 | 2668 | — | 820 | 245 | 34557 | 333 |
| Фосфар. мука . | — | — | — | — | — | — | 4314 |
| Касьцян. мука . | — | — | — | 34616 | — | — | — |